# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

10 МАЯ 1996 г. № 19 (3843) Кошт 2 500 руб.






*Перамога. Май. Вясна.*

Фота М. МІНКОВІЧА

# ПІТ КОЛА ДЗЁН

***Пасля апошніх пасяджэнняў парламента, думаецца, ні ў кога не засталося сумненняў у тым, што чаканага супрацьстаяння дзвюх галін улады не будзе: камуністы ў Вярхоўным Савеце і камуністы ў адміністрацыі прэзідэнта, урэшце, паразумеліся. А як жа інакш: адну ж справу робяць... Чаму сцвярджаем гэтак упэўнена? Ды таму, што на мінулым тыдні ў парламента якраз было больш чым трэба прычын пабрацца з прэзідэнтам "у рожкі". Тут і разбор "чарнобыльскіх" і "першамайскіх" палётаў улад, і разгляд кадравых пытанняў, і ратыфікацыя маскоўскіх дамоў, і рашэнне Канстытуцыйнага суда аб неканстытуцыйнасці прэзідэнцкага "ўказа ўказаў", і чарговы ўказ прэзідэнта, які абмяжоўвае ўладу ўласна Вярхоўнага Савета... Словам, прэзідэнт на мінулым тыдні атрымаў яшчэ адну важную перамогу на шляху да адзінаўладдзя: паклаў сабе ў кішэню парламент...***

## МАЎЧАННЕ ТЫДНЯ

Ніяк не адрэагаваў парламент на ўказ прэзідэнта "Аб унясенні змен у часовае палажэнне аб парадку прызначэння на пасады і вызваленне ад пасад старшынь абласнога, раённага, гарадскога выканаўчых камітэтаў". Цяпер прэзідэнт сам будзе прызначаць кіраўнікоў абласцей, гарадоў, раёнаў, дэпутаты ж павінны будуць не зацвярджаць прапанаваных прэзідэнтам прэтэндэнтаў, а толькі прымаць да ведама яго рашэнне. Маленькі дзяржаўны "пераварот" адбыўся. І, мяркуючы па ўсім, дэпутаты моўчкі праглынулі і гэтую горкую пілюлю...

## "КЛОПАТ" ТЫДНЯ

Прамінуць інфармацыю БЕЛТА пад кідкім загалоўкам "Прэзідэнт клапоціцца пра культуру" ну ніяк не выпадае. Надта ж паказальная яна. Цікава, якую ж культуру падтрымлівае (фінансуе) беларуская дзяржава і яе прэзідэнт? Вось лічбы і факты з апошніх распараджэнняў прэзідэнта: 66 мільёнаў рублёў выдзелена на фінансаванне арганізацыі і правядзення І кангрэса дзеячаў культуры дзяржаў СНД, 290 мільёнаў рублёў — на фінансаванне расходаў, звязаных з дзейнасцю фонду падтрымкі таленавітай моладзі (заўважце, не ўласна моладзі, а — дзейнасці фонду, г. зн. яго чыноўнікаў), 800 мільёнаў — кінастудыі "Беларусьфільм" на стварэнне поўнаметражнага дакументальнага фільма пра П. Машэрава, нарэшце, Кабінету Міністраў даручана зацвердзіць склад аргкамітэта кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь", а Міністэрству культуры загадана аказаць садзейнічанне аргкамітэту... "Можа, хто з вас спытае: дзе ж цяпер Беларусь?.."

## КАН'ЮНКТУРА ТЫДНЯ

Павел Глоба, вядомы як астролаг, зноў адважыўся наведаць Беларусь. Каб зноў арганізаваць у нас сваю школу. Пэўна, вырашыў, што на Беларусі ўжо павінны забыцца пра ягоныя ранейшыя важкі і прагнозы ды прадказанні двух-трохгадовай даўніны, якія не збыліся, альбо "збыліся" з дакладнасцю наадварот. Трошкі-трошкі памыліўся П. Глоба хіба ў адным: што першым прэзідэнтам Беларусі стане жанчына... Цяпер газеты запоўніліся новымі прадказаннямі "мэтра" ад астралогіі: А. Лукашэнка застанецца прэзідэнтам Беларусі і на другі тэрмін, нягледзячы на цяжкасці, што чакаюць яго напрыканцы года; удзячныя суграмадзяне паставяць яму пры жыцці помнік на галоўнай плошчы сталіцы, а сусветная супольнасць уручыць яму... Нобелеўскую прэмію міру... Ці не таму і называюць астралогію вельмі часта псеўданавукай?

## ПАРАЛЕЛІ ТЫДНЯ

"Я павінен паведаміць чалавеку са Шклова адну непрыемную рэч. 26 красавіка я бачыў твары маладых людзей на праспекце Скарыны. На іх не было страху. Гэта былі твары свабодных людзей. І яшчэ дакладу пра выпадкова пачутыя словы сумнага падпалкоўніка міліцыі: "Ён прайграў моладзь".

*(З артыкула Сямёна Букчына "Гаіцянскі ўзор на беларускі манер", "Народная воля", май г. г.)*

"Мы назаўсёды будзем пракляты, калі не выратуем старэйшае пакаленне", — прамаўляў прэзідэнт (на афіцыйным мітынгу 26 красавіка). Так і хацелася спытаць: ад каго выратуем? Ці не ад тых, хто аддаў перавагу не афіцыйнаму мітынгу, а альтэрнатыўнаму "Чарнобыльскаму шляху-96", хто быў збіты нашымі доблеснымі сілавікамі?.. Хто праз дзесяцігоддзі не па падручніках савецкай гісторыі, а на ўласнай скуры адчуў, што такое "инакомыслие", дыктатура і дэспатызм..."

*(З артыкула Асі Трацюк "Вера, як і Бог, адна", "Свободные новости-плюс", N 18, май г. г.).*

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

"Наша ніва" (N 7) даказала, што Вячаслаў Кебіч, былы Старшыня Саўміна Беларусі і галоўны канкурэнт А. Лукашэнкі на выбарах прэзідэнта, можа быць цікавым і шчырым субяседнікам. "Я здольны на большае", — сказаў Вячаслаў Францавіч. Верым, але аддаць уладу было значна прасцей, чым адваяваць яе цяпер. Зрабіць гэта ў сённяшніх варунках амаль немагчыма. Вось і прападае дарма талент палітыка, эканаміста, кіраўніка... Адным прызнаннем Вячаслаў Францавіч здзівіў: "Рэферэндум па мове я б не праводзіў. Гэта антымаральна". І на тым — дзякуй.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"— Багата размоў пра тое, што Вы — старшыня камісіі па сімволіцы. Дарэчы, як правільна называецца камісія?

— Я і сам не разумею, што гэта за камісія, чаму яна створана і хто зрабіў мяне старшынёй... Сімволіка не можа прапаноўвацца без апісання, гэта ж аксіёма! Хтосьці выкарыстаў пэўныя сімвалічныя элементы, мабыць, падрыхтаваў і службовую запіску — тлумачэнне зробленага?.. Камісіі не паведамілі, хто з'яўляецца аўтарам праекта сімволікі, зацверджанай рэферэндумам. Буду патрабаваць, каб аўтар выклаў сваё бачанне — хаця б для таго, каб было з чым параўноўваць.

Дарэчы, сімволіка — досыць паказальны прыклад, як у Беларусі вырашаюцца праблемы культуры (бо сімволіка — гэта перш за ўсё пытанне культуры дзяржавы). Усё робіцца з дакладнасцю наадварот: спачатку невядома хто прапаноўвае эскізы-варыянты сімволікі, невядома хто зацвярджае адзін з варыянтаў для перадвыбарных плакатаў, а потым ужо, пасля рэферэндуму, ствараецца камісія, якая заднім чыслом павінна знайсці найлепшай тлумачэнне гэтай сімволіцы!.. Зусім незразумела, чаму ў герб увайшла карта Беларусі? У гісторыі не было жалезных граніц, і карта краіны звычайна не адлюстроўваецца ў сімволіцы..."

*(З інтэрв'ю акадэміка-мастака М. Савіцкага "Звяздзе" — "Мастацтва вымірае?..", 4 траўня г. г.)*

**P.S** Усё разумее Міхаіл Андрэевіч. І тым не менш пагаджаецца ўдзельнічаць у гульні, якая не дадае ягонай асобе аўтарытэту, а наадварот... Нават пасля гэтага свайго прызнання "Звяздзе", у той жа вечар — 4 мая — па Беларускім тэлебачанні ён паведаміў ад імя "сваёй" камісіі пра вынікі конкурсу на лепшы тлумачальны тэкст да герба і сцяга, што прыдуманы невядома кім... Ажно 26 тэкстаў прыняло ўдзел у конкурсе. Сярод пераможцаў — Аляксандр Савіцкі (ці не Алесь?). Мастацтва і сапраўды вымірае, калі пачынае абслугоўваць улады.

Парламент

# "СПАЧАТКУ ПРЫЗНАЧЫЛІ, ПОТЫМ АБРАЛІ"...

Вось ужо праўду кажуць, што ад драматычнага да смешнага — адзін крок. Пад самую заслону дзённага пасяджэння Вярхоўнага Савета ў суботу 4 мая адзін з дэпутатаў (ад фракцыі камуністаў) падышоў да мікрафона і звярнуўся да спікера літаральна з такім пытаннем: "Сколько еще нас будут кормить в буфете польской дрянью, когда там появится нормальная советская горчица?" Пытанне было сустрэта дружным рогатам дэпутатаў, хоць, мяркую, не ў аднаго мяне мільганула думка, што гэтае згадванне "польской дряни" было своеасаблівай рэакцыяй, мо на ўзроўні падсвядомасці, на некаторыя выказванні Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шарэцкага, што прагучалі незадоўга перад гэтым у Авальнай зале. Сямён Георгіевіч, чалавек ураўнаважаны, разважлівы, кажучы па-руску, основательный, выступаючы з нагоды падзей, што адбыліся ў Мінску 26 красавіка і выліліся ў сутыкненне некаторай часткі ўдзельнікаў "Чарнобыльскага шляху" з сіламі правапарадку, і выкрываючы нібыта антырасійскую накіраванасць дзеянняў "нацыянал-радыкальных сіл", вырашыў, відаць, у піку ім накіраваць свой крытычны напал па адрасе Польшчы, да якой нібыта хіляцца нашы "нацыяналісты" і якая, маўляў, заўсёды дэманстравала сваю непрыязь да Беларусі, беларусаў, іх культуры, мовы, традыцый і г.д.

Заява, што і казаць, рызыкоўная, тым больш калі ўлічыць, што міжнацыянальныя, міждзяржаўныя адносіны — матэрыя вельмі далікатная і патрабуе да сябе выключна асцярожнага, паважлівага стаўлення. Тым больш, што гэтыя "откровения" прагучалі ў дзень нацыянальнага свята Польшчы — Дня Канстытуцыі.

С. Шарэцкі прысвяціў сваё выступленне несанкцыянаваным шэсцю і мітынгу. Спікер парламента гэтую акцыю рэзка асудзіў, ацаніўшы яе як спробу "нацыяналістычных сіл" дэстабілізаваць абстаноўку ў рэспубліцы, расколоць грамадства. Думка гэта легла і ў аснову пастановы, якую прыняў Вярхоўны Савет. Хоць на парадак дня пасяджэння было вынесена пытанне "Аб палітычным становішчы ў краіне", усё абмежавалася размовамі вакол падзей 26 красавіка ў Мінску. Перад пасяджэннем у парламенцкіх кулуарах упарта цыркулявалі чуткі аб тым, што нібыта з падачы прэзідэнта краіны для дэпутатаў, што прынялі ўдзел у альтэрнатыўным шэсці і мітынгу, рыхтуецца ў Авальнай зале аўтадафэ, але ўсё абышлося. А інфармацыя-тлумачэнне, з якімі выступіў адзін з іх арганізатараў, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, як мне падалося, было сустрэта дэпутатамі з пэўным разуменнем. Але тут жа не магу не сказаць і аб здзіўляючай абыякавасці, праяўленай большасцю з іх да свайго ж калегі — дэпутата П. Знаўца, якога органы МУС, нягледзячы на яго дэпутацкую недатыкальнасць, трымалі на працягу сутак у аддзяленні міліцыі. Засталіся непачутымі, а, па сутнасці, праігнараванымі і звароты апошняга да міністра ўнутраных спраў В. Агальца і старшыні КДБ рэспублікі В. Мацкевіча, якія прысутнічалі на пасяджэнні, з патрабаваннем разабрацца і пакараць вінаватых у грубым парушэнні закона аб дэпутацкім імунітэце.

...Да канца вячэрняга пасяджэння заставалася мінут дзесяць-пятнаццаць і многія дэпутаты пачалі ўжо падымацца з крэслаў, калі раптам першы намеснік Старшыні ВС В. Новікаў прапанаваў парламентарыям прыступіць да ратыфікацыі падпісанага прэзідэнтам А. Лукашэнкам 2 красавіка ў Маскве пагаднення аб стварэнні супольніцтва паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй. Шмат часу гэта не зойме, бо ўсе дакументы падрыхтаваны і загадзя раздадзены дэпутатам для азнаямлення. Да гонару многіх дэпутатаў яны не пагадзіліся з прапановай В. Новікава (надта ж ужо легкадумны падыход) і вырашылі перанесці разгляд гэтага пытання на заўтра, каб усё грунтоўна абмеркаваць.

І ўсё ж "абмеркаванне" красамоўна сведчыла, што сапраўды ўсё было прадвырашана загадзя. Хіба што здзівілі крыху сваёй "паслядоўнасцю" выступленні некаторых дэпутатаў-дэмакратаў, якія, абвясціўшы аб сваім намеры галасаваць за ратыфікацыю пагаднення з Расіяй, тут жа не пакідалі ад яго каменя на камені — і што гэта не больш чым пратакол аб намерах, і што гэта чыстая дэкларацыя, не падмацаваная ніякімі канкрэтнымі справамі, і што пагадненне пагражае суверэнітэту Беларусі. Тым не менш, пагадненне з Расіяй было ратыфікавана рэкорднай большасцю галасоў: толькі два — супраць.

Цікава праходзіла і пасяджэнне парламента 4 мая, прысвечанае так званым кадравым пытанням. Праходзіла яно надзвычай бурна, ва ўзаемных пікіроўках прэзідэнта і асобных дэпутатаў. Пачалося пасяджэнне з выступлення А. Лукашэнкі, які, згадаўшы вядомую сентэнцыю: "Кадры вырашаюць усё", сказаў, што яна вельмі актуальная і для нашага часу. Распавёўшы дэпутатам аб сваёй канцэпцыі падбору і расстаноўкі кіруючых кадраў у краіне, Аляксандр Рыгоравіч прасіў Вярхоўны Савет ухваліць зробленыя ім персанальныя прызначэнні кіраўнікоў шэрагу міністэрстваў і ведамстваў.

Мякка кажучы, пікантнасць сітуацыі была ў тым, што прэзідэнт, паводле існуючых законаў, не меў права гэтага рабіць. Усё гэта (як і зняцце з пасады) — прэрагатыва Вярхоўнага Савета. Кіраўнік дзяржавы можа толькі ўносіць прапановы па прызначэнні той ці іншай асобы на тую ці іншую пасаду. Калі ж паразуменне паміж парламентам і прэзідэнтам па пэўнай кандыдатуры не дасягнута, апошні сваім указам можа прызначыць, скажам, таго ж міністра, але з абавязковым дадаткам — ВА ці ЧВА.

Усе гэтыя "дробязі" Аляксандр Рыгоравіч праігнараваў, прызначыўшы "паўнаважкіх" міністраў абароны — Л. Мальцава, унутраных спраў — В. Агальца, старшыні КДБ — В. Мацкевіча, старшыню Нацыянальнага банка — Т. Віннікаву, двух віцэ-прэм'ераў урада — Л. Сініцына і В. Даўгалёва і г.д.

Дэпутат В. Ганчар, расцаніўшы гэтыя дзеянні прэзідэнта як грубейшыя парушэнні адразу трох законаў: аб прэзідэнце, Вярхоўным Савеце і Кабінеце Міністраў, заклікаў парламентарыяў адкласці разгляд кадравых пытанняў. А. Лябедзька, П. Занавец і некаторыя іншыя дэпутаты ўнеслі прапанову наогул не падтрымліваць зробленыя А. Лукашэнкам кадравыя перастаноўкі, а да таго не падтрымаць і зняцце прэзідэнтам з пасады былога міністра ўнутраных спраў Ю. Захаранкі, якое было зроблена без прававых падстаў (пра гэта досыць пераканаўча гаварыў у сваім амаль паўгадзінным выступленні і сам Ю. Захаранка).

Але ці то з-за таго, што Аляксандр Рыгоравіч валодае унікальным дарам дамагацца свайго, ці то з-за інертнасці большасці дэпутацкага корпуса, усе прэзідэнцкія прызначэнні былі парламентам ухвалены. Адзін з дэпутатаў саркастычна заўважыў: спачатку міністраў прызначылі, а потым іх абралі.

Чаго толькі не здараецца ў нашым "каралеўстве дацкім"...

**М. ЗАМСКІ**

Пошта

# ЧЫМ "НЕБЯСПЕЧНЫ" ДЛЯ НАС ЗАХАД?

Усходняя скіраванасць, што існавала на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў, цяпер пачала ўкараняцца настолькі моцна, што ўжо зноў чуем спрадвечны міф аб той небяспецы, якая быццам бы пагражае нам з Захаду. Як чалавеку, які ведае заходнія краіны не па кніжках, мне чуць такое не толькі смешна, але і трывожна, бо гэтае вяртанне да старых стэрэатыпаў можа абярнуцца вялікай бядой для беларусаў.

Праца ў дзіцячым фондзе "Сакавік", які ўзначальвае Марыя Міцкевіч, унучка славутых Я. Коласа і Я. Маўра, дазволіла мне пабываць з беларускімі дзецьмі ў заходніх краінах і пабачыць, як "праклятыя капіталісты" "ненавідзяць" савецкіх людзей.

Летам 1994 года вялікі самалёт даставіў на гасцінную італьянскую зямлю 500 хлопчыкаў і дзяўчынак з Беларусі. І з таго часу многія з гэтых дзяцей па запрашэнні італьянскіх сем'яў бясплатна праводзяць там свае зімовыя і летнія канікулы, атрымліваюць да свята віншаванні, падарункі.

Падчас візіту прэзідэнта ЗША Б. Клінтана ў Беларусь група дзяцей з гімназіі N 199 удзельнічала ў сустрэчы высокага госця, і з таго часу кожны год адміністрацыя Белага дома шле гэтым дзецям знакі ўвагі: ліст падзякі з аўтографам прэзідэнта, фотаздымкі (кожнаму!), зробленыя ў час сустрэчы.

Дзеці са Слаўгарада, якія адпачывалі 4 гады назад у Англіі ў Віндзоры, да гэтага часу кожны год атрымліваюць лісты ад Коліна і Розмары, прасякнутыя цеплынёй і клапатлівасцю.

Мінулым летам 12 хворых дзяцей

Адгалоскі

# ЯКОМУ НАРОДУ СЛУЖЫМ?

Мікалай Яроменка — чалавек вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Таму яго інтэрв'ю карэспандэнту маскоўскай газеты "Завтра", якое ласкава было перадрукавана штотыднёвікам "7 дней", прыцягнула маю ўвагу "ярко выраженными, — як гаворыць ён сам, — симпатиями и антипатиями". Перш за ўсё, гаворачы аб якімсьці "глобальном внутреннем предательстве", Мікалай Мікалаевіч сцвярджае, што гэтым сілам "Удается устраивать заварухи внутри самой России **(я не отделяю Россию от Белоруссии, для меня это одно целое)**" — падкрэслена мною. — **А. К.** На маю думку, сказанае патрабуе ўдакладнення. Беларусь і Расія — дзве розныя дзяржавы. Кожная з іх мае сваю багатую шматвяковую гісторыю, сваю мову і культуру. Іншая справа, што рускія і беларусы — браты-славяне. Яны любяць і паважаюць адзін аднаго. Яны суседзі і жывуць у дружбе і згодзе. Сёння Беларусь — самастойная суверэнная рэспубліка.

У гэтай сітуацыі тав. Яроменка ніяк не можа ўцяміць, пра якое Адраджэнне гавораць яму зараз у Беларусі. А прадстаўнікі БНФ яшчэ і заяўляюць, што "надо все начинать с нуля". І ён абураецца: "Как же так? Это ложь".

Але вы, Мікалай Мікалаевіч, хоць і радзіліся не ў Беларусі, не можаце не ведаць, што беларускі народ стагоддзямі жыў пад ярмом розных імперый. Лёс беларускай інтэлігенцыі з народа быў трагічны. І толькі ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзяў, і ў прыватнасці ў 20-ыя гады савецкага часу, пачалося беларускае нацыянальнае Адраджэнне. У асвету, літаратуру, мастацтва, навуку прыйшлі тысячы таленавітых сыноў і дачок нашага народа. Адкрываліся беларускія школы, тэхнікумы, ВНУ, тэатры, музеі, выдавецтвы, клубы, бібліятэкі. Ліквідоўвалася непісьменнасць. Моладзь атрымлівала адукацыю, набывала розныя прафесіі і г. д.

У канцы 20-х гадоў пачаўся працэс прымусовай калектывізацыі, які сутыкнуўся з супраціўленнем сялян. Як на бяду, "бацька ўсіх народаў" выкінуў тэзіс пра ўзмацненне класавай барацьбы ў перыяд сацыялістычнага будаўніцтва. Пачалася так званая ліквідацыя кулацтва як класа. Дзесяткі тысяч найбольш працавітых і дбайных гаспадароў залічвалі ў кулакі, раскулачвалі, а затым арыштоўвалі і разам з сем'ямі высылалі на галодную смерць у неабжытыя бязлюдныя сібірскія таежныя куткі.

У хуткім часе пачала ажыццяўляцца абсурдная сталінская ідэя зліцця моў, культур розных народаў, каб стварыць адзіны савецкі народ з агульнай моваю і культураю. Пачалася новая хваля русіфікацыі. Адначасова ішло фарміраванне вобраза "ворага народа" — нацдэма, нацыяналіста-сепаратыста. Каб расправіцца з актывістамі нацыянальнага Адраджэння, органамі ГПУ былі сфабрыкаваны неіснуючыя змоўніцкія арганізацыі — "Саюз вызвалення Беларусі" і "Беларускі нацыянальны цэнтр", якія нібыта планавалі сілай захапіць уладу ў БССР, разлічваючы на антыкалгасныя хваляванні сялян-кулакоў і інтэрвенцыю Польшчы. У 1937 г. у сталінскіх турмах і гулагах апынуліся тысячы свядомых і адукаваных беларусаў, якіх катавалі, фізічна знішчалі, высылалі на выміранне. Адраджэнне, беларусізацыя, распачатая ў 20-я гады, захліснулася ў крыві лепшых сыноў і дачок беларускага народа. Паводле падлікаў Б. Сачанкі, было рэпрэсіравана 128 беларускіх пісьменнікаў. У Саюзе пісьменнікаў у 1937 г. засталося толькі 14 чалавек, якія пісалі па-беларуску, але і на іх былі заведзены справы. У Акадэміі навук БССР было рэпрэсіравана больш за 130 вучоных, у тым ліку прэзідэнт Акадэміі навук У. Ігнатоўскі, акадэмікі Л. Горын, З. Жылуновіч, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч і інш.

З тых гадоў план русіфікацыі на Беларусі ажыццяўляўся настойліва і паслядоўна пад кіраўніцтвам эмісараў з Масквы — першымі сакратарамі ЦК КПБ К. Геем, М. Гікалам, П. Панамарэнкам, М. Гусаравым, М. Патолічавым і інш. Дайшло да таго, што ў нашых гарадах не засталося ніводнай беларускай школы, тэхнікума, ВНУ. Выкладанне ў большасці вясковых школ было пераведзена на рускую мову. Нават беларуская літаратура ў некаторых школах і ВНУ выкладалася на рускай мове. І хаця руская мова не мела статуса дзяржаўнай, аднак Беларусь пераходзіла на рускае аднамоўе. Вось так паступова беларусаў адвучвалі гаварыць на роднай мове. Але вы, Яроменка, гэтага не заўважалі ці не хацелі заўважыць, хаця з 1948 г. працавалі ў тэатры імя Якуба Коласа, а пазней — у тэатры імя Янкі Купалы. Больш таго, тыя гады вы называеце "золотым веком белорусского театра".

Для аб'ектыўнасці паслухаем, што гаварылі сакратары ЦК, абкомаў, гаркомаў, райкомаў пра гады "золотого века" на IV пленуме ЦК КПБ 25—27 чэрвеня 1953 г., які па ўказанні ЦК КПСС абмяркоўваў нацыянальнае пытанне ў рэспубліцы.

З даклада сакратара ЦК КПБ М. Зімяніна:

"Грубыя скажэнні савецкай нацыянальнай палітыкі дапушчаны ў заходніх абласцях Беларусі... З 1175 партыйных работнікаў налічваецца мясцовых работнікаў карэннай нацыянальнасці толькі 121 чалавек... У ліку 173 начальнікаў райаддзелаў МУС беларусаў налічвалася толькі 33 чалавекі".

"На беларускую мову павінна быць пераведзена справаводства партыйных і савецкіх органаў. Мы павінны гаварыць з народам на яго роднай мове...

Партыйным арганізацыям прадстаіць сур'ёзна заняцца і тым, каб установы культуры, гандлю і г. д. абслугоўвалі працоўных на беларускай мове. Асаблівая адказнасць ускладаецца ў гэтай справе на наш друк, кнігагандлёвыя арганізацыі і органы Саюздруку. Распаўсюджанне кніг, часопісаў і газет на беларускай мове пастаўлена ў рэспубліцы крайне нездавальняюча".

Былы сакратар Брэсцкага абкома КПБ Ц. Кісялёў сказаў:

"Калі б Міністэрства адукацыі не накіроўвала на работу ў якасці загадчыкаў аблАНА, райАНА таварышаў, якія зусім не ведаюць беларускай мовы, у сваю чаргу органы адукацыі не прызначалі б дырэктарамі і завучамі школ людзей, якія не ведаюць беларускай мовы. Калі б міністр адукацыі перад настаўнікамі выступаў на роднай мове, то і настаўнікі выступалі б перад насельніцтвам на беларускай мове. А ў нас жа на беларускай мове выступалі толькі на сесіях Вярхоўнага Савета БССР і на пасяджэннях Саюза пісьменнікаў пры абмеркаванні твораў беларускіх пісьменнікаў..."

І далей Ц. Кісялёў працягвае: "...І калі мы пачнем практычна карыстацца беларускай мовай, будзем пісаць і размаўляць па-беларуску, і ў школах зменяцца адносіны да беларускай мовы, і гэты недахоп, ці правільней — памылкі ў гэтых пытаннях, будуць ліквідаваны".

"У Брэсцкай вобласці з 13 раённых газет толькі 4 выходзяць на беларускай мове...", — дадаў Кісялёў.

Сакратар Дзяржынскага РК КПБ Лемяшонак адзначыў: "Справа дайшла да таго, што мы самі, многія кіруючыя работнікі не сталі пускаць сваіх дзяцей вучыцца ў беларускія школы..."

Галадушка — сакратар Гомельскага абкома КПБ падкрэсліў:

"У Гомельскім педінстытуце з 103 выкладчыкаў беларусаў налічваецца толькі 26 чалавек, у выніку чаго выкладанне ўсіх прадметаў вядзецца на рускай мове, за выключэннем беларускай мовы і літаратуры, а старшы выкладчык гэтага інстытута — кандыдат філалагічных навук, дацэнт, беларус па нацыянальнасці Васілёнак нават на факультэце беларускай мовы і літаратуры выкладанне беларускай літаратуры вядзе на рускай мове.

Вось чаму студэнты, якія закончылі педінстытут і педвучылішча, асабліва факультэты гістарычны, прыродазнаўчы, геаграфічны і фізіка-матэматычны, не ведаюць беларускай мовы..."

Віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР Якуб Колас сцвярджаў:

"...З мовы мы пачынаем жыццё, мовай заканчваем яго. Сходы, мітынгі, многія нашы мерапрыемствы праводзяцца не на беларускай мове. А размаўляць з народам трэба на яго мове...

Акадэмія — цэнтр беларускай культуры — амаль выгнала з ужытку беларускую мову..."

У гэтай сувязі варта звярнуць увагу і на цытату Іосіфа Сталіна, якую прывёў у спрэчках былы сакратар Мінскага абкома КПБ К. Мазураў:

"Пішуць, што мы, камуністы, быццам насаджаем беларускую нацыянальнасць. Гэта няпраўда, таму што існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, у выніку чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай мове".

Думаю, што вы, Мікалай Мікалаевіч, як інтэрнацыяналіст і прыхільнік сацыялістычных ідэй, не будзеце аспрэчваць актуальнасць гэтых слоў і для нашых дзён.

Відавочна, чытач зверне ўвагу і на тое, што дыскусія на пленуме ЦК КПБ па нацыянальным пытанні вялася больш за 42 гады таму назад, але ствараецца ўражанне, што яна ішла толькі ўчора — пра неабходнасць Адраджэння беларускай мовы і культуры на сучасным этапе. Бо беларуская мова па-ранейшаму зневажаецца.

І Мікалай Яроменка — дзеяч культуры Беларусі — не бачыць гэтага не можа. Яшчэ ў студзені 1990 года Вярхоўным Саветам рэспублікі прыняты Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова стала дзяржаўнай. Дэпутаты праявілі дзяржаўную мудрасць і разуменне таго, што ад лёсу роднай мовы залежыць лёс нашай нацыі і ўсёй яе культуры. Бо, як сказана ў Законе, мова "не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры".

Аднак насуперак Закону аб мовах, не прыняўшы пад увагу тысячы тэлеграм і лістоў выбаршчыкаў на імя Вярхоўнага Савета з пратэстам супраць дзяржаўнага двухмоўя (чытай "Голас народа — голас Божы", Мінск, 1993, укладанне і прадмова Ніла Гілевіча), не зважаючы на "Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь", у якой запісана: "Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнародных зносін", дзяржаўныя мужы рэспублікі з падачы славянскіх інтэрнацыяналістаў, былых наменклатуршчыкаў і мясцовых апрычнікаў вынеслі пытанне аб двухмоўі на рэферэндум і дабіліся свайго: руская мова на Беларусі набыла статус дзяржаўнай. Праўда, вынікі рэферэндуму не адназначныя. Перш за ўсё яны сведчаць пра нізкую нацыянальную свядомасць нашага народа. Але папракаць за гэта народ няможна. Не маючы сваёй дзяржаўнасці, беларускі народ і яго мова вякамі былі зняважаны, прыгнечаны, абяздолены. Зразумела, нам, беларусам, за вынікі рэферэндуму сорамна перад іншымі славянскімі народамі і наогул перад чалавецтвам за тое, што мы не змаглі абараніць родную мову, асудзілі яе на далейшы заняпад, на гібель, не ўсвядоміўшы, што гібель мовы — гэта і гібель нацыі, яе культуры, яе духоўнасці.

Закон аб мовах і прыняцце Канстытуцыі РБ спрыялі адкрыццю ў дзіцячых садах беларускіх груп, у школах — беларускамоўных класаў, а выкладанне многіх прадметаў у розных навучальных установах пераводзілася на родную мову. Пэўную надзею жывіла і тое, што кіраўніцтва Вярхоўнага Савета 12 склікання на чале са Станіславам Шушкевічам, а затым Мечыславам Грыбам вялі пасяджэнні парламента на беларускай мове. На роднай мове выступалі і многія дэпутаты.

Вынікі рэферэндуму пахавалі і гэтую надзею. Беларускія групы ў дзіцячых садах, беларускамоўныя класы ў школах зноў закрываюцца і ператвараюцца ў рускамоўныя. Не карыстаюцца дзяржаўнай мовай, узаконенай Канстытуцыяй РБ, прэзідэнцкія структуры і парламент 13 склікання. І гэта не робіць ім гонару. Практычна яны ўзаконілі рускае аднамоўе. А гэта інакш не назавеш, як знявагай беларускай мовы, а значыць — і знявагай нацыі.

У той жа час народны артыст БССР Мікалай Яроменка, відаць, з задавальненнем канстатуе: "Русский язык признан вторым государственным языком". І прыводзіць прыклад: "Я вот видел данные по Могилевщине, там 82 процента белорусов, а умеющих говорить по-белорусски — только 32 процента". Пасля гэтага хочацца спытаць у паважанага Мікалая Мікалаевіча: а ці не варта вам, як дзеячу беларускай культуры, задумацца — чаму ж так сталася? А гэта ж і ёсць вынік той русіфікатарскай палітыкі, калі народ адвучвалі ад мовы маці і пры царызме, і пры адміністрацыйна-камандной сістэме, і адвучваюць зараз. Падумаць толькі — цэлы народ пазбавілі роднай мовы, пераключыўшы яго на "трасянку". А тав. Яроменка трагедыю нацыі падае як бяскрыўдны факт гісторыі: "...так ведь сложилось исторически". І тут жа ментарскім тонам павучае: "Все должно быть естественно, язык должен стать осознанной необходимостью. А насилие всегда вызывает чувство протеста. А наша "демократическая" интеллигенция, принимая законы о языке, пошла по радикально-насильственному пути и вызвала обратную реакцию".

Але ж пабойцеся Бога, Мікалай Яроменка! Дзе і ў чым вы знайшлі ў складзеным вучонымі-прафесіяналамі дэмакратычным па сутнасці і памяркоўным на справе Законе аб мовах "насильственный путь"? Ваша несправядлівае абвінавачанне нагадвае абразлівы выпад папа Баянкова, які таксама ў Законе аб мовах убачыў "насильственную белорусизацию"? Але, відаць, у душы святара Паўла Баянкова няма Бога, хутчэй за ўсё яго спакусіў чорт, інакш бы ён не грашыў ісцінай, абвінаваціўшы ў гэтым народнага паэта Беларусі, народнага дэпутата Вярхоўнага Савета 12 склікання РБ Ніла Гілевіча. Вы ж, Яроменка, не поп, а прэзідэнт Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў і не можаце не заўважаць, што рускамоўная плынь у Беларусі не толькі пераважае, але і выцясняе беларускую нават у такіх сферах, як адукацыя, навука, культура, якія з'яўляюцца асновай духоўнага здароўя нацыі. Вы не можаце не бачыць, што ні адна мова свету ў сваіх дзяржаўных межах так не прыніжана, як беларуская. Таму ваша пазіцыя, Яроменка, выклікае неўразуменне: якому народу вы служыце?

Лёсу ж рускай мовы ў нас ніхто і нішто не пагражае. У Законе аб мовах навукова абгрунтавана запісана: "Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь вывучэнне беларускай і рускай моў з'яўляецца абавязковым". Дык пра які ж "радикально-насильственный путь", пра якія перагібы ідзе гаворка? Наша дэмакратычная інтэлігенцыя, якой вы, Яроменка, адмаўляеце ў праве называцца дэмакратычнай, бо бераце гэта слова ў двукоссе, хацела і хоча прыняццем Закона аб мовах дабіцца толькі аднаго, — каб беларуская мова, як гаворыць народны паэт, шчыры патрыёт Беларусі Ніл Гілевіч, — "запанавала на Радзіме, загучала ўсюды і скрозь гэтак жа натуральна, як руская ў Расіі або польская ў Польшчы..." Успамінаючы словы вялікага Пушкіна, да сказанага хочацца дадаць, каб і ў Беларусі адчуваўся беларускі дух і пахла Беларуссю.

Часам нядобразычліўцы беларускай мовы сцвярджаюць, што беларусы самі адмаўляюцца гутарыць па-беларуску. Але, выбачайце, гэта езуіцкае сцвярджэнне! Бо спачатку з беларусаў вытруцілі роднае слова, зрусіфікавалі народ, а потым пляткараць небыліцы... Пераключыце, як гэта робіца ў Расіі ці Балгарыі, выкладанне ў пачатковых школах, у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах на родную мову, увядзіце справаводства на ўсіх узроўнях і ва ўсіх сферах эканамічнага, матэрыяльна-тэхнічнага і грамадска-палітычнага жыцця ў рэспубліцы на дзяржаўнай беларускай мове, як гэта прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, — і беларусы, ды не толькі яны, загавораць па-беларуску.

Іншы раз іншаземцы і тутэйшыя невукі заяўляюць, што беларуская мова бедная, грубая, непрыгожая. Падобнае могуць плявузгаць толькі вырадкі, якія зневажаюць свой народ, яго мінулае, сучаснае і яго будучыню. Такім людзям хочацца адказаць словамі выдатнага рускага пісьменніка, чалавека высокай культуры, надзвычай чуйнага да нацыянальнага характара асобы Канстанціна Паўстоўскага, які сказаў: "По отношению каждого человека к своему языку можно совершенно точно судить не только о его культурном уровне, но и о его гражданскай ценности.

Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к родному языку, — дикарь. Он вредоносен по самой своей сути потому, что его безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа".

**А. КЛАЧКО,**
**заслужаны настаўнік Беларусі**
*г. Мінск*

# ДА ЮБІЛЕЮ КЛАСІКА

**У Магілёўскай абласной бібліятэцы адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Аб жыцці і дзейнасці класіка нацыянальнай сатыры расказаў загадчык кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута М. Караткоў. Вершаваная кампазіцыя па байках сатырыка прагучала ў выкананні В. Ермаловіча і навучэнцаў Магілёўскага вучылішча культуры. Свае сатырычныя творы, гумарэскі, карацелькі прачыталі мясцовыя пісьменнікі В. Карпечанка, М. Лук'янаў, Г. Зотаў, В. Кунцэвіч.**

**Вялі вечарыну супрацоўніца абласной бібліятэкі І. Швяцова і сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі У. Дуктаў.**

**У. САСНОЎКІН**

# БЯДУЛЯ — У КОЛАСА



**Памяці Змітрака Бядулі з нагоды яго 110-годдзя прысвячаўся літаратурны чацвер, што прайшоў у музеі Якуба Коласа. Як заўсёды, пачаў і вёў пасяджэнне Іван Курбека.**

**Народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Іван Навуменка запыніў увагу слухачоў на асаблівасцях таленту гэтага самабытнага мастака слова. Даследчык нядаўна выпусціў кнігу пра Майстра і на некаторых момантах ягонай творчай біяграфіі затрымаўся, глянуўшы па-новаму на асобу пісьменніка.**

**Пра своеасаблівасць Бядулевага светаўспрымання гаварыў дырэктар Інстытута літаратуры АН Беларусі, акадэмік В. Каваленка. Пра непаўторнасць таленту пісьменніка, пра сённяшняе гучанне яго твораў распавядала дацэнт Белдзяржуніверсітэта Вольга Казлова.**

**Мікола Татур прыгадаў адну сваю сустрэчу з незабыўным дзядзькам Змітраком.**

**Уважна выслухалі прысутныя выступленне сына юбіляра Яфіма Самуілавіча Плаўніка.**

**Гучалі на вечарыне і творы выдатнага пісьменніка. Іх чыталі народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі і навучэнцы Мінскага педкаледжа. У канцэрце ўдзел узялі самадзейныя артысты з радзімы Змітрака Бядулі (Лагойшчына) і Якуба Коласа.**

**В. ІВАНОЎ**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

# З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ ВЕРЫ РЫЧ

**Вечар, прысвечаны 60-годдзю вядомай англійскай перакладчыцы і паэтэсы Веры Рыч і 40-годдзю яе творчай дзейнасці, што прайшоў 23 красавіка ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Лондане, ператварыўся ў вечарыну беларускай культуры, якая стала сапраўдным святам для кожнага, хто завітаў на яе. Гучалі беларуская музыка, песні і вершы.**

**Што да паэзіі, дык яна, таленавіта пераўвасобленая па-англійску віноўніцай урачыстасці, адчувала сябе не горш, чым у арыгінале. Асабліва — неўміручыя творы Максіма Багдановіча і Янкі Купалы. Ды і творчасць іншых паэтаў таксама захавала водар "радзімы васілька".**

**На вечары прысутнічалі вядомыя дзеячы брытанскай культуры і мастацтва, журналісты, дыпламаты, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Лондане. Былі запрошаны і нашчадкі славутага Напалеона Орды, а таксама Каруся Каганца, якія жывуць у Вялікабрытаніі.**

**Няма сумнення, што падобныя мерапрыемствы садзейнічаюць лепшаму веданню беларусаў і Беларусі ў свеце. А калі гаварыць канкрэтна пра сам вечар, дык ён, па аднадушным меркаванні гасцей пасольства, будзе спрыяць паглыбленню беларуска-брытанскага супрацоўніцтва, пашырэнню культурных сувязяў дзвюх краін.**

Віншуем!

# Васілю ВІТКУ — 85

Творчасць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міжнароднага ганаровага дыплома імя Х.-К. Андэрсена Васіля Віткі — адна з найбольш значных старонак сучаснай беларускай літаратуры, а яго жыццё — яркі прыклад самаадданага служэння Бацькаўшчыне, рупнасці на карысць нацыянальнага Адраджэння, у імя беларускасці.

Выхадзец з вёскі Еўлічы (цяпер Слуцкі раён), сялянскі сын з працавітай сям'і Крыськоў, ён стаў высокаэрудзіраваным творцам, надзіва паспяхова выступае ў самых розных жанрах літаратуры.

Пасля заканчэння Слуцкай прафтэхшколы (1928) В. Вітка пачаў працаваць слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. На гэты час акурат і прыпадае пачатак яго літаратурнай дзейнасці. А затым былі заводская шматтыражка, рэдакцыі газет "Камуніст" (Бабруйск), "Ударнік" (Жлобін), "Чырвоная змена", часопіс "Полымя рэвалюцыі".

У 1939 В. Вітка быў сярод тых, хто ўдзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ён з'яўляўся сакратаром Беластоцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. У гады вайны Цімох Васільевіч працуе ў рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь", у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ рэдактарам масавых выданняў для акупіраваных ворагам раёнаў Беларусі, са студзеня 1944 года — адказны сакратар часопіса "Беларусь", а з 1948 года — намеснік галоўнага рэдактара, з 1951-га — галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва". У 1957—1974 гадах В. Вітка — галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", у 1974—1987-ым — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм".

Першая кніга паэзіі В. Віткі "Гартаванне" выйшла ў 1944 годзе. На яго мастацкім рахунку — паэтычныя зборнікі "Поўдзень" (1946), "Вернасць" (1953), "Ружа і штык" (1958), "Паверка" (1961), "Беларуская калыханка" (1971), "Праводзіны лета" (1972), "Случчына" (1981), "Трэція пеўні" (1988) і іншыя.



Цімох Васільевіч напісаў п'есы "Прамень будучыні" (1948) і "Шчасце паэта" (1951, пастаўлена ў 1952 годзе), пераклаў на беларускую мову паэму У. Маякоўскага "Добра!" (1940, разам з М. Лыньковым), "Паны Галаўлёвы" М. Салтыкова-Шчадрына (1956), кнігу В. Сухамлінскага "Блакітныя жураўлі" (1971), шматлікія творы рускіх, украінскіх, балгарскіх, латышскіх, польскіх пісьменнікаў.

Але асабліва шмат зрабіў В. Вітка дзеля выхавання падрастаючага пакалення, спалучаючы ў сваёй асобе дзіцячага пісьменніка, педагога, публіцыста. Пачатак гэтай важнай справе ім пакладзены ў 1948 годзе, калі пабачыла свет яго кніжка паэзіі і вершаваных казак для маленькіх "Вавёрчына гора". Толькі выйшла яна і адразу ў беларускай дзіцячай літаратуры стала больш цяпла, сонца, займальнасці, дасціпнасці, тонкага гумару вялікага педагагічнага такту. Выходзілі новыя кнігі ("Буслінае лета", 1958; "Казка пра цара Зубра", 1960; "Дударык" 1964; "Азбука Васі Вясёлкіна", 1965; "Казкі", 1968; "Чытанка-маляванка", 1971; "Хто памагае сонцу", 1975; "Ладачкі-ладкі", 1977; "Мы будуем метро", 1979; "Мінскія балады", 1982 — спіс гэты можна доўжыць) і ў Цімоха Васільевіча з'яўляецца ўсё болей сапраўдных сяброў. І што самае важнае: першыя яго чытачы,

Васіль ВІТКА

# ПОЗНЯЕ ПОЖНІ РАДОК

*З ДЗЁННІКАЎ — 94, 95, 96*

## СЕЙБІТАМ СЛУЧЧЫНЫ

**Чорны Кузьма, Ян Скрыган, Васілевіч,**
**Дарагія мае сябры і дарадцы,**
**Даруйце, што ў такой вось градацыі.**
**Мужык з былых прыбалотных Еўліч.**

**Я вашы імёны пералічу,**
**Далучу Рыгора Мурашку і Лобана,**
**Случчына — нашае ўзвышша лобнае,**
**Жалобнае, як свяча ўваччу.**

**А колькі паэтаў было ў нас — без ліку!**
**Калі б толькі змог я, калі б усіх склікаў,**
**Не вызначаючы, хто меншы, хто большы**
**І хто старэйшы, а хто серадольшы.**

**Якая б гэта капэла была.**
**О, як заспявала б яна, загула,**
**Каб не адсек**
**Галасоў ГУЛАГ.**

**Хто адгарэў, запалаў ярчэй,**
**Не дагарэў — пакутліва тлее.**
**Толькі б не пакідала, грэла надзея**
**Наступнікаў нашых, хто за намі яшчэ.**

**Як яна грэла нас, наша надзея**
**На радасць, на шчасце жыць на зямлі,**
**На ўзвышшы слова, дзе годна маглі**
**Сеяць сваё так, як кожны ўмее.**

**Калі што ўзышло, то дасць Бог, застанецца**
**Як з папярэднікаў добрай рукі.**
**Случчане, зямляне, мы ўсе землякі,**
**Хто саграваў сваё слова сэрцам.**

**Айчына любові, смутку і смуты,**
**Продкаў самаахвярная плаха,**
**Ты і алтар, і крыж нашай пакуты,**
**Галгофа і Гараваха.**

*5. 10. 95*

## АПРАМЕТНАЯ ЭЛЕГІЯ

**Годзе цешыць сябе, браце, годзе ўжо,**
**Што на зямлі і твой след не прапаў.**
**Ты ж па сабе не пакінуў калодзежа,**
**Каб помнілі людзі, хто выкапаў.**

**Згадай хоць адну падрубу пад хату,**
**Не кажучы пра падмурак і зруб.**
**Якім твая памяць запасам багата,**
**Ці вырас табою пасаджаны дуб?**

**Родныя, што былі твайму часу акрасай,**
**Грудок і аселіца, і прыбалотны куток.**
**І не салоўкі, а ўдоды, кнігаўкі і бакасы**
**На слых вывералі твой нязграбны радок.**

**Бярэзінкі, што садзіў ты з дзядзькам Усцімам**
**Ад грэблі да грэблі па раўчуку,**
**Адны і засталіся тваім успамінам**
**З маленства па старасць табе, хлапчуку.**

**Бярэзінак тых не зрадніць і не зблізіць**
**З шыпшынай ля хацішча на двары.**
**Сучаснасць мінуўшчыну так ненавідзіць —**
**Перавярнула ўсё дном дагары.**

**Крынічка адзіная обак гасцінца —**
**Прадвечнасці жыла, покуль жыла**
**І памяць жывіла, даўно не бруіцца —**
**Помнік нямы нямога сяла.**

**Даўно мы на дне апраметнага кратэра,**
**Вочы слепяць пясок салігорскі і пыл.**
**Меліяратары, з вашае ласкі**
**мы ў д'ябла за кратамі,**
**Ні той і ні гэты свет нам няміл.**

**Даруй, дарагая, пакутная памяць,**
**Перад табою грашу, рвучы на кавалкі душу.**
**Наўрад каго ў пекле ці ўзварушу,**
**Дзе галава ўжо нічога не цяміць.**

*17.07.95*

## ДЗЯЦІНСТВА

**Здаўна не церпячы слова "дзяцінства",**
**Каюся, кінуўшы родны дзядзінец,**
**Дзяцінець пачаў у казённым Мінску,**
**Дзе назаўсёды мушу здзяцінець.**

*22.04.94*

## ЗАКЛЯТАЯ САРОЧКА

**Навек да жыцця ланцугом не прыкуты,**
**Прыйдзе пара і пакорна памру.**
**Шкада, з сабою не забяру**
**Усе, што душаць народ мой, пакуты.**

**Народжаны з вамі ў заклятай сарочцы,**
**Адну яе і не пакіну.**
**З сабою якраз**
**І вазьму ў дамавіну,**
**Каб з кожнага з вас**
**Зняць ліхія суроцы.**

24.04.94

●

**Шкада, што часу зямнога замнога**
**Патрачанага, а ўбачанага ўвачавідкі,**
**Ды не пазначанага ні духам, ні плоццю**
**У вуснах народа нямога**
**Ні прыдарожнаю віткай,**
**Ні павіткаю ў заплоцці.**

15.06.94

●

**Напісанае на паперы**
**Не заўсёды варта веры,**
**А засведчанае верай**
**Ніхто не высеча сякерай.**

*18.06.94*

●

**На дзевятым дзесятку**
**Трэці год мой мінае,**
**А чацвёрты, мой братку,**
**Ці дацягнеш да маю?**

**За табою і пяты гадок**
**Як зарок, няхай клятва,**
**Каб убачыць яшчэ хоць радок**
**Развітальнае кнігі дзятла.**

*21.06.94*

●

**Расінка на лістку — драбок алмаза,**
**А ў ёй змясцілася і сонца. І адразу**
**Сусвет увесь, сем колераў вясёлкі.**

**А што яшчэ змясціць здалее столькі,**
**Што роўна ёй, маленечкай па мерцы?**
**Адно адзінае — людскае сэрца.**

*21.06.94*

## БЯССМЕРТНІК

**Напэўна, што судзіў сам лёс так**
**На ўсё жыццё і па апошні міг —**
**Нялюбы ён мне быў адзін з усіх**
**За мёртвы цвет сваіх пялёстак,**

**За свечачны яго бліскучы воск,**
**Які не вабіў нават матыля**
**І ні руплівіцы пчалы, і ні чмяля,**
**Ні нават сквапных і настырных вос.**

**Як прывід каляровы, ён здалёк**
**Нічым не мог пацешыць зрок,**
**Хоць заўважаўся дзе-нідзе**
**Зрэд часу хіба што ў людзей**

**Сям-там у парку, на газоне,**
**Але ні ў вазе, ні ў вазоне.**

падрастаючы, становячыся дарослымі, да яго твораў падахвочвалі сваіх дзяцей. Бо ведалі, што ў дзядулі Васіля — вельмі шчодрая душа. Бо памяталі: яго кнігі — гэта заўсёды той свет, у якім гэтак шмат дабра, шчырасці, а да ўсяго нязменна прысутнічаюць сапраўдныя ўрокі грамадзянскасці.

Дарэчы, адну са сваіх кніг, у якой яго талент раскрываецца найперш у педагагічных аспектах, В. Вітка так і назваў — "Урокі" (1982). А перад гэтым быў зборнік дзённікаў, нарысаў і апавяданняў "Дзеці і мы" (1977), пасля ж "Урокаў" выйшла кніга "Азбука душы" (1988). Тым самым як бы педагагічная трылогія, якая стала свайго роду падручнікам для выхавацеляў дзіцячых садоў, настаўнікаў і, канечне ж, для саміх бацькоў, бо ў ёй не проста карысныя парады, у ёй — роздум, народжаны з багатага вопыту — жыццёвага і творчага, у ёй — споведзь душы неабыякавай і сэрца гарачага, нястомнага, у ёй — клопат, каб нашы настаўнікі былі вартыя БЕЛАРУСАМІ звацца.

Нядаўна Цімох Васільевіч парадаваў прыхільнікаў свайго таленту новай кнігай "Дом, дзе жывуць словы". Гэта па сутнасці слоўнік народнай мовы для дзяцей. Слоўнік, у якім, зноў жа, знайшлося месца і спрадвечнай жыццёвай педагогіцы, носьбітам якой з'яўляецца сам народ. Па-сапраўднаму ж разумець сэнс яе і значнасць, умець належным чынам прапагандаваць могуць толькі тыя, хто перакана765ны: выхаванне любові да маці, роднай зямлі пачынаецца са слова. Са слова роднага, са слова матчынага.

Гэтай перакананасцю і жыве В. Вітка. А яшчэ ў правільнасці і актуальнасці сваіх меркаванняў ён упэўнівае кожнага, хто далучаецца да яго творчасці. А яна такая ж значная!.. І яна, на шчасце, працягваецца. Пацвярджэнне таму — і новыя творы пісьменніка, што публікуюцца ніжэй.

З 85-годдзем жа, шаноўны і дарагі Цімох Васільевіч! Няхай яшчэ доўга спадарожнічаюць Вам новыя і новыя "годдзі", а мы ўсе, прыхільнікі Вашага яркага і самабытнага таленту, з радасцю будзем чакаць сустрэчы з Вашымі творамі!

*На здымку: случане: Галіна Каржанеўская, Алена Васілевіч, Ян Скрыган і Васіль Вітка. 21 мая 1985 года. Слуцк.*

**Не новаю і думка можа здацца:**
**Не варта мёртваму ў жыцці**
**Бяссмертным звацца.**
*29.10.94*

●

**Не ўдасканаліўшыся рукамі**
**Ззамаладу па апрацоўцы металу,**
**Крэмзаючы паперу радкамі,**
**Так і веку дажыў памалу.**

**Спытаеце, як жа з паэзіяй.**
**Каго хоць радком узварушыў?**
**Надзіва хапала жалеззя.**
**Чаго не хапала?**
**Напэўна, душы.**
*1.12.94*

## ВОЧЫ МАЛЕНСТВА

*Т.С.Т.*

**Памру адзін-адзіны раз,**
**Але за свой пражыты час**
**Я нараджаўся неаднойчы,**
**Наноў расплюшчваючы вочы**

**Свае з вачмі дзяцей і ўнукаў,**
**І праўнукаў на свет і на айчыну,**
**І цешачыся мудраю навукай,**
**Што спасцігаецца і сэрцам, і вачыма.**

**А потым з кожным пакаленнем**
**І новых вучняў, новых чытачоў**
**Так блізка-блізка і на аддаленні,**
**Але ізноў наноў, наноў.**

**О, колькі ўцехі вы давалі,**
**Якому шчасцю быў я рад.**
**Бог дасць, і з невядомай далі,**
**Быць можа, выблісне мне ваш пагляд.**
*27.12.94 Бальніца.*

## СВЕТЛЫ АНЁЛ МОЙ

*Л.К.*

**Светлы анёл мой, пасланы з нябёсаў,**
**А я на чарзе — у зямлю,**
**Мне перад Богам і перад лёсам**
**Грэшна і вымавіць: "Я Вас люблю".**
*7.02.95*

## ПАКЛОН ВЯСНЕ

**Госпадзі Ісусе,**
**Я і сам дзіўлюся**
**Наяве, а не ў сне:**
**У кішэні напашэве**
**Нітрагліцэрын пры мне —**
**Выйду, пакланюся**
**Яшчэ адной вясне.**
*7.03.95*

## ЗЯЛЁНЫ САЛЮТ

**Дзень, вясною наканаваны,**
**Калі салютуюць небу каштаны,**
**Вечарам запаліўшы свечы**
**На сваім урачыстым вечы,**
**Але ні гуку, ні знаку аб вечным,**
**Ноччу думаючы аб нечым,**
**Напэўна ж, аб чалавечым...**
*9.05.95*

## ТАЙНА

**З вясеннім сонейкам зноў сустрэцца,**
**Як з неразгаданай тайнаю сэрца.**
**Здзівіцца, як нанава нарадзіцца,**
**Ад нечаканасці раптам здаўмецца:**

**Яно, балеснае,**
**Над гэтай жа весняю**
**І вечнаю тайнаю**
**Б'ецца!**
*8.03.95*

## АДНО АДЗІНАЕ

*Памяці В.Р.*

**Цяпер яно ў сэрца мне болем б'е,**
**Адзінае тое "сумую",**
**Калісьці пасланае следам табе,**
**Каб конча пабачыць самую.**

**Сумую... — гэтак на ўвесь чысты ліст,**
**Як выгук на белы свет на зары.**
**І ён паміж намі пустым не павіс,**
**Дагнаў цябе ў Мазыры.**

**Толькі на дзень адпусціў рэжысёр.**
**Спектакля твайго не было балазе,**
**А ў Мінск з Мазыра, як з альпійскіх гор —**
**Сюд-тут на адной назе...**

**З'яднаныя старасцю ўжо адной**
**І словам адным на дваіх,**
**Яго ты і самаю сумнай вясной**
**Успомніла ў наш развітальны міг,**

**Хоць і маўчала, і я маўчаў**
**На краі апошняй начы,**
**Бачачы, як дагарае свяча,**
**Агеньчык якой нас лучыў...**

**Куды ж цяпер пасланць мне пісьмо**
**Са словам па беламу — чорным?**
**На жаль, нікуды не дойдзе яно,**
**Тое, што сталася непаўторным.**
*25.09.95*

## ПАДЗЯКА ГАДЗІННІКУ ПАДАРАВАНАМУ СЯБРАМІ

**Залаты мой гадзіннік,**
**Яшчэ служыць спружына.**
**Дыхае імяніннік**
**І душа яшчэ жыва.**

**Стары век на сыходзе,**
**А ўжо новы на ўзводзе,**
**Падганяючы стрэлкі,**
**Ад крыві п'яны ў сцельку.**

**Калі піць не ўвярэдзіцца,**
**Не працвярэзіцца,**
**Буду рады, сябры,**
**Што не ўбачу ўжо гэтай пары.**
*25.02.96*

## АПОШНІ СНЕГ

**Бог палаці змятае —**
**Казалі на Беларусі**
**Пра апошні**
**Самотны снег.**

**Усявышні і, праўда, бывае,**
**Нават у маі**
**На хвіліну зямлю прыцярусіць**
**І ласкава ўсміхнуцца вясне.**
*10.03.96*

●

**У камарыным надрэчным раі**
**Маладыя шалелі ўсю ноч салаўі,**
**А безгалосы бацька стары**
**Зашыўся ў ламачча ў глухім бары.**

**Тут давідна разлічыў і дажыць,**
**Нікім незаўважаным у лаўжы.**
**Клопат сынам, што шчыруюць у лозах —**
**На паядынку няма безгалосых.**

**Вырай на крылах нясуць жураўлі,**
**Бор на вяршалінах сонейка гушкае.**
**Што паднябеснаму да зямлі,**
**Дзе стала меней адной дробнай птушкаю!**
*19.03.96*

Проза



Іван НАВУМЕНКА

# ДВА АПАВЯДАННІ

## АРКЕСТР

Ідуць гады і ўсё меней застаецца партызан. Калі памёр Валодзя Тычына, у вайну маладзенькі, ціхмянага выгляду падрыўнік, а ў апошнія гады дырэктар саўгаса, які дзеля зборышчаў партызан выдзяляў гулкі, грымучы аўтобусік, Багавік рашыўся. Без баявых сяброў-таварышаў горад зрабіўся пусты.

— Зямля круглая, — сказаў ён знаёмым. — На Пцічы я нарадзіўся. Паеду туды канчаць жыццё...

Пціч пачынаецца пад Мінскам і цячэ на поўдзень, на Палессе. Нарадзіўся Багавік на Палессі, у станцыйным пасёлку, дзе праз паўнаводную раку перакінуты магутныя жалезныя аркі чыгуначнага моста, якія трымаюцца на таўшчэзных ацэментаваных быках-апорах. Восенню сорак другога года яны, партызаны, гэты мост узарвалі.

А служыць у войску Багавіку прыйшлося ў мясцінах, дзе Пціч нагадвае вузенькую канаўку. Там і маршал Жукаў служыў: камандаваў кавалерыйскім палком, штаб якога размяшчаўся ў Мінску.

Цяпер там дом ветэранаў. Туды і пакіраваў Багавік, у якога памерла другая жонка, а з родных засталася немаладая, хваравітая дачка.

Толькі расчараваўся Багавік. Дом ветэранаў — фактычна запушчаная багадзельня. Па зарослых дарожках соваюцца з кійкамі ў руках згорбленыя дзяды і бабулі. Дзядам — хоць пенсію да капейкі збіраюць — не даюць нават табакі. Хоць ты недакуркі па сцежках сабірай. І як мухі паміраюць былыя высокія і сярэднія начальнікі, палкоўнікі і маёры. Іх хаваюць нават без аркестра, без ніякай музыкі. Могілкі — насупраць іпадрома, на якім калісьці практыкаваліся кавалерысты палка, якім камандаваў Жукаў. А вакол іпадрома — дзесяткі камяніц-палацаў. Самай неверагоднай формы — вастраверхія, з антрэсолямі, басейнамі, вокнамі, што нагадваюць сярэдневяковыя шчыліны-байніцы. Большасць — на два-тры паверхі. Набудавалі палацаў мінскія начальнікі, якія яшчэ ў сіле. Толькі зямлі каля палацаў малавата — па дзесяць сотак — і яны згрувасціліся нібы высотныя гмахі дзе-небудзь на вузкай нью-йоркскай Уол-стрыт.

Нарэшце вестка аб тым, што Багавік падаўся ў дом ветэранаў, дайшла да ўлад ягонага горада. І яны зразумелі: зрабілі памылку. За ім прыехалі на легкавой машыне. Як-ніяк ён быў камандзірам партызанскага злучэння, і кіраўнікам надпрыпяцкага горада стала проста сорамна.

Багавіку нават кватэру выдзелілі: двухпакаёвую на аднаго.

Усё жыццё Багавік быў увішны, рухавы і, з чэсцю вярнуўшыся ў родны горад, ён не спыніў актыўнай дзейнасці. Ён трохі музыка. У маладосці граў на гармоніку, балалайцы, нават на гітары. Цяпер на схіле гадоў асвоіў акардэон. Яму нібы прыбавілася сілы, пасля таго, як гарадскія ўлады без просьбы з ягонага боку вырвалі яго з дома ветэранаў, а фактычна з заняпалай багадзельні.

Багавік складае спіс гараджан пенсійнага ўзросту, якія валодаюць якім-небудзь музычным інструментам. Актыўнасці яму не пазычаць. Завітвае асабіста да кожнага.

— Мы па агульным шляху не пойдзем. Ад смерці ўстрымаемся. Але раптам прыйдзецца...

— Відаць, прыйдзецца. Не адхрысцішся...

— То давай, браце, з музыкай. Каб самі нябёсы пачулі. Хіба мы дарма пражылі жыццё?..

Багавік — арганізатар адменны. Заўсёды здзяйсняў, што задумваў. Ціха нясе шырокая, паўнаводная Прыпяць трохі рудаватыя воды ў Дняпро. На яе правым стромым беразе даўно стаіць старая прысадзістая, падобная на які-небудзь склад, шопа. Пасля Чарнобыля шопу меліся знесці: мецілі на яе месцы пабудаваць даследчую станцыю. Багавік пакіраваў у гарвыканкам і адстаяў шопу.

Ніхто нават не заўважыў, што за месяц-два шопа як бы памаладзела. Вечарам яна глядзела светлымі вокнамі на цёмную як дзёгаць ваду Прыпяці.

Недалёка ад шопы — аўтобусная станцыя, а побач з ёй, на самай гары — шасціпавярховая гасцініца. Вечарам, калі сціхае гарадскі тлум, на аўтавакзале выразна чуваць музыка. Гэта мадэрная музыка нясецца з гасцініцы: лязгат, бразгат, завыванне.

З некаторага часу да аўтавакзала стала даносіцца іншая музыка. Галоўным чынам мелодыі песень грамадзянскай і Айчыннай войнаў. Аркестрам кіруе, відаць, вопытны дырыжор, бо мелодыі гучаць зладжана, выразна.

Пасля кожнай рэпетыцыі ўдзельнікаў самадзейнасці развозіць па горадзе, што стаіць на сямі пагорках, бразгатлівы, рыпучы аўтобусік з таго саўгаса, якім кіраваў партызан нябожчык Валодзя Тычына. Аўтобусік спісалі, і яго за невялікія грошы выкупіў Багавік.

Напярэдадні Дня Перамогі памірае Перапёлкін, адзін са старэйшых партызан, фактычна памочнік Багавіка, а ў мірныя гады дырэктар МТС.

Невялікі, па сутнасці, горад яшчэ не бачыў такога пахавання. Уверх па гарбатай ускраіннай вуліцы, дзе пахілыя, вясковага выгляду хаты мяжуюць з мадэрновымі катэджамі камерцыйных структур, рухаецца агромністы натоўп. Наперадзе аркестр з меднымі трубамі, акардэонамі, звычайнымі гармонікамі. Ён дыхае на поўныя грудзі, выконваючы песні рэвалюцыі і Айчыннай вайны.

Над магілай прамаўляюць Багавік, два-тры сівыя прыгорбленыя партызаны, высокі чарнявы хлапчына з гарвыканкама. Калі труну па вяроўках апускаюць у магілу, кідаюць першыя камякі зямлі, як бы зноў прачынаецца аркестр. У ім, аказваецца, ёсць флейты, скрыпкі і нават вялікія турэцкія барабаны з меднымі бляхамі. Аркестр пачынае "Інтэрнацыянал". Баявую малодыю напачатку як бы намацваюць акардэоны, флейты, скрыпкі. Яна гучыць сцішана, паволі нарастаючы, пашыраючыся. Але вось адна за другой уключаюцца ў справу шыракагорлыя медныя трубы, бухаюць турэцкія барабаны і цяпер толькі адна баявая, урачыстая мелодыя лунае над наваколлем. Музыка людзей, што намерыліся перавярнуць увесь свет, разбурыць яго і адбудаваць на новых пачатках. Некаторыя з прысутных, не саромеючыся, выціраюць слязіну, а некалькі бабулек, што не прапускаюць ніводнага пахавання, зацята хрысцяцца.

(Працяг на стар. 13)

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ХОР... У МУЗЕІ

**Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі ладзіць творчае сяброўства з Нацыянальным мастацкім музеем. Першым знакам такога сяброўства стаўся адкрыты канцэрт хору хлопчыкаў ліцэя пад кіраўніцтвам Уладзіміра Глушакова. Гучалі культавыя творы Моцарта і Рахманінава, беларускія канты і негрыцянскія спірычуэлс; супрацоўнікі музея зрабілі адмысловую экспазіцыю ўзораў іканапісу — і гэтая своеасаблівая экуменічная велікодная імпрэза здзівіла і парадавала наведнікаў. Супольныя акцыі ліцэя і музея будуць працягвацца. Ужо сёння нават прадумваецца праграма двух калядных канцэртаў, а на далейшую перспектыву плануецца правядзенне фестывалю з удзелам даравітых дзяцей — для дзяцей, дый не толькі.**

**Н. К.**

## А Ў БУДУЧЫХ ІНЖЫНЕРАЎ — СВОЙ ЦЭНТР

**І не які-небудзь, а цэнтр этнаграфіі, фальклору і рамёстваў. І адкрыўся ён нядаўна ў Мінску ў інтэрнаце № 6 Беларускай політэхнічнай акадэміі. А што самае важнае — ініцыятарамі стварэння цэнтра выступіла само кіраўніцтва БПА. Яшчэ некалькі гадоў назад яно звярнулася з адпаведнай прапановай у Беларускі Саюз майстроў народнай творчасці. Там, зразумела, ахвотна пайшлі насустрач.**

**І вось добры намер ператварыўся ў канкрэтную справу. Пад Цэнтр этнаграфіі, фальклору і рамёстваў адведзена места на другім паверсе інтэрната. І адразу ж першыя наведвальнікі змаглі па вартасцях ацаніць, што чакае іх у будучым... Канечне ж, далучэнне да сакрэтаў творчасці, знаёмства з прыгожым. А наколькі яно шматграннае ў сваёй аснове і непаўторнае, пераканала першая выстаўка, што была ўрачыста адкрыта разам з адкрыццём Цэнтра. На ёй прадстаўлены лепшыя вырабы народных умельцаў.**

**І ў перспектыве ў Цэнтры будуць ладзіцца падобныя экспазіцыі. А яшчэ — пачнуць працаваць розныя гурткі і студыі, у якіх сябры Саюза майстроў далучаць студэнтаў да сваіх сакрэтаў, пройдуць і заняткі на вучэбным курсе "Гісторыя беларускай культуры".**

## МАЙСТРА



**Архітэктар па адукацыі Кацярына Андрэеўна Пакаліцына займалася праблемамі рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, але ў адзін момант пазбавілася працы. Нейкі час працавала вышывальшчыцай у малым прадпрыемстве. Але карпатлівы гэты занятак прыносіў малыя заробкі. Вырашыла паспрабаваць распісваць шкатулкі. Вось тады і спатрэбіліся веды беларускай архітэктуры, народнага касцюма, гісторыі рэлігіі. Акрамя шкатулак, стала распісваць сувенірныя яйкі, стварыўшы цэлы шэраг узораў на біблейскую тэматыку.**

**Сёння Кацярына Андрэеўна ўжо не ўяўляе сябе без заняткаў жывапіснай мініяцюрай. Год таму яна стала членам Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, удзельнічае ў выстаўках.**

**Яўген КАЗЮЛЯ,БЕЛТА**

*На здымку: Кацярына Андрэеўна Пакаліцына за работай.*

*Фота аўтара*

*Віншуем!*

***Нядаўна ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі адбыўся бенефіс аднаго з вядучых салістаў, народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі. Шматлікія прыхільнікі гэтага сапраўды рэдкаснага таленту віншавалі яго з 60-годдзем з дня нараджэння і 35-годдзем творчай дзейнасці. У "букет" юбіляру — і наша сённяшняя публікацыя.***

# СПЯВАК. АРТЫСТ. МАЙСТАР!

Тэатральная афіша 1960 года запрашала публіку на не зусім звычайны спектакль Беларускага опернага — "Севільскі цырульнік": у партыі Фігара ўпершыню выступаў выпускнік Маскоўскай кансерваторыі Аркадзь Саўчанка. У памяці сталых аматараў опернага мастацтва захаваўся створаны ім абаяльны вобраз вясёлага, гаваркога, жыццярадаснага і дасціпнага прыгажуна. Яго артыстычны талент, прывабны выгляд, рэдкая музычнасць, мяккі аксамітны голас цёплага тэмбру поўнага дыяпазону скарылі публіку.

У тым спектаклі, акрамя 24-гадовага барытона, удзельнічалі маладыя спевакі Хіжняк і Кадзінская. Усе трое прыехалі ў Мінск па запрашэнні тагачаснага галоўнага дырыжора Льва Любімава, які наведаўся ў Маскву ў пошуках тэнара. Удзел у спектаклі быў для гэтых спевакоў своеасаблівым творчым конкурсам на залічэнне ў штат тэатра. І вось нарэшце лёс артыстаў вырашыўся. З трох маладых прэтэндэнтаў Леў Уладзіміравіч запрасіў працаваць на беларускай опернай сцэне толькі Аркадзя Саўчанку.

"Мы вас бяром", — сказала яму галоўны рэжысёр тэатра, знаная спявачка Ларыса Пампееўна Александроўская. Звяртаючыся да Льва Любімава, яна заўважыла, што знешне Аркадзь Саўчанка вельмі напамінае Мікалая Ворвулева. Малады спявак быў, як гаворыцца, на сёмым небе ад радасці. Крэўны беларус, ураджэнец Віцебска, ён марыў працаваць на опернай сцэне роднай Беларусі. Мара яго збылася.

Аркадзь Саўчанка пачынаў з другіх партый — Маралеса ў "Кармэн" Д. Бізэ, суддзі ў "Балі-маскарадзе" Д. Вердзі, Фіярэлы ў "Севільскім цырульніку" Д. Расіні. Канкурэнцыя сярод барытонаў у тэатры была. І маладому спеваку было нялёгка прабіцца ў вядучыя. Але паступова цярплівасць і праца дапамаглі дасягнуць шмат чаго. Як адзначае канцэртмайстар Ларыса Талкачова, у Аркадзя Саўчанкі рэдкая працаздольнасць. Штодзённа артыст займаецца па тры-чатыры гадзіны, працуе над кожнай фразай, карыстаючыся магнітафонам. Ён не дазваляе сабе расслабляцца, вельмі адказна адносіцца да кожнага спектакля. Для кожнага вобраза спявак знаходзіць новыя фарбы не толькі ў акцёрскім выкананні, але і як вакаліст. Асэнсавана працуе над вобразам. І вядома ж, дае цудоўны прыклад працавітасці для маладых спевакоў.

Яму ўдаюцца партыі любой складанасці. Паклоннікам таленту А. Саўчанкі здаецца, што ён дасягае ўсяго вельмі лёгка. Але за казачнай лёгкасцю хаваецца сур'ёзная карпатлівая праца артыста над партыяй. Паводле прызнання вернага сябра, дарадчыцы, жонкі, оталарынголага Серафімы Сямёнаўны, якая фактычна з'ўляецца яго анёламхавальнікам і не прапускае ніводнай оперы з удзелам мужа, Аркадзь Маркавіч перад кожным спектаклем прапявае ўсю партыю, а выступае з такой каласальнай аддачай, што часам пасля спектакля не можа заснуць усю ноч.

Саўчанка паводле гараскопа авен. Ці не таму на дзіва сумленны, праўдзівы, ні перад кім не лісліві, не прыніжаецца, лічыць, што артыст павінен гаварыць пра сябе не словамі, а дзеяннем... Яго нешматслоўнасць выявілася і ў вельмі сціплым расказе пра свае оперныя ролі. Добра, што мне давялося пабачыць яго ў розных спектаклях, хаця, вядома ж, не ва ўсіх пяцідзесяці партыях, якія ён выканаў за 35 гадоў працы на беларускай опернай сцэне.

Памятаю, які цудоўны незабыўны вобраз Яўгенія Анегіна стварыў артыст у аднайменнай оперы П. Чайкоўскага. На працягу спектакля ён то ганарлівы, недаступны, упэўнены ў сабе свецкі прыгажун, то пакутнік, які страціў розум ад кахання, расчараваны ад перажытага. У сцэне дуэта з Ленскім перад дуэллю ён прарочліва прадчувае сваю трагічную адзіноту...

Памятаю Аркадзя Саўчанку ў створаным ім амаль трыццаць гадоў назад цудоўны вобраз Апалона ў оперы С. Танеева "Арэстэя". У гэтай ролі ён быў вельмі прыгожы, як з цудоўнай казкі. А голас спевака гучаў так свежа, лёгка, што, здавалася, няма яму роўных.

На думку Л. Талкачовай, яго бясспрэчным поспехам была партыя Дон Жуана ў аднайменнай оперы В. Моцарта. Гэта была першая пастаноўка Моцарта на беларускай сцэне, цікавая, сур'ёзная.

Вельмі прывабным, мяккім, лірычным быў яго Максім Багдановіч у оперы Ю. Семянякі "Зорка Венера". У гэтым вобразе асабліва праявіліся яркая музычнасць, натхнёнасць акцёра.

Па-свойму вылучаліся ў яго самыя розныя партыі: Марселя з "Багемы" Д. Пучыні; Гразнога з "Царскай нявесты" М. Рымскага-Корсакава, Радрыга з "Дона Карласа" Д. Вердзі. Для кожнай з іх артыст знаходзіць незвычайныя фарбы, нюансы. Але амаль заўсёды стараецца не паўтарацца, працуе творча, імправізуе. У кожны спектакль імкнецца ўносіць нешта новае. Так адбывалася і з адным з лепшых яго герояў — Фігара ў оперы Д. Расіні "Севільскі цырульнік".



Яго першая сустрэча з гэтым вобразам адбылася яшчэ падчас вучобы ў Маскоўскай кансерваторыі ў опернай студыі, дзе рэжысёрам тады быў славуты спявак Сяргей Якаўлевіч Лемешаў. А колькі разоў Саўчанка выступаў у гэтым спектаклі на мінскай сцэне — нават цяжка сказаць! З цягам часу ягоны Фігара мяняўся. Артыст знаходзіў у ім усё новыя якасці, падкрэсліваў у сваім герої незвычайную жыццёвую мудрасць, аптымізм, філасафічнасць і, вядома, — бязмежную весялосць. На ўзроўні з ім была і Разіна ў выкананні Тамары Ніжнікавай. Іх партнёрства ў операх і ў жыцці было карысным для абаіх. Аркадзю Маркавічу падабаўся яе вельмі прыгожы голас-званочак. Ёй быў даспадобы цудоўны барытон з аксамітным тэмбрам, і каб ён заўсёды гучаў лёгка, свабодна, яна старалася перадаць маладому спеваку ўсе сакрэты вакальнага майстэрства, якім валодала сама.

Яны абое вучыліся ў Маскоўскай кансерваторыі, толькі ў розныя гады. Педагогам Тамары Мікалаеўны была знакамітая спявачка, сястра праслаўленай В. Барсавай — Марыя Уладзіміраўна.

Аркадзь Маркавіч, які стаў студэнтам у 18-гадовым узросце (пасля шматлікіх канцэртаў на самадзейнай сцэне, пасля паспяховых уступных іспытаў, дзе быў конкурс — 33 чалавекі на места), вучыўся ў выдатнага барытона, народнага артыста Расіі Сяргея Мігая — таксама, дарэчы, ураджэнца Беларусі. У свой час Сяргей Іванавіч вучыўся ў караля барытонаў выдатнага італьянскага спевака Канцільяна Бацісціні. Так што фактычна і А. Саўчанка атрымаў італьянскую вакальную школу. Яшчэ адным яго педагогам па вакалу быў народны артыст Расіі Аляксандр Батурын (таксама беларускага паходжання).

Лёс звёў двух таленавітых людзей — Тамару Ніжнікаву і Аркадзя Саўчанку. Яны разам удзельнічалі ў многіх спектаклях: "Травіята", "Рыгалета", "Шукальнікі жэмчугу", "Дзяўчына з Палесся" і іншых. Яны не маглі не закахацца! Але той жа лёс іх развёў... Яны па-ранейшаму сябруюць. Іх аб'ядноўваюць не толькі два сыны. Жывуць у адным доме. Абодва выкладаюць вакал у Акадэміі музыкі. Што было, перажытае, па-ранейшаму помніцца. Любоў да мастацтва, адданасць сваёй справе, найвысокі прафесіяналізм — гэта не мінае...

Невыпадкова вакальнае мастацтва стала ягоным прызваннем. Добра спявалі маці, бабуля, а Аркадзь з братам Анатолем падпявалі. Анатоль, дарэчы, таксама стаў оперным спеваком (у яго ад прыроды пастаўлены тэнар): ён заслужаны артыст Латвіі, жыве ў Рызе. Браты неаднаразова разам выступалі ў "Травіяце", "Севільскім цырульніку", "Яўгеніі Анегіне". Але як бы цудоўна ні спяваў Аркадзь Маркавіч, ён ніколі не быў задаволены сваім голасам, мяркуючы, што калі спявак задаволены сабой, дык на гэтым ён заканчваецца. І яшчэ мяркуе, што каб больш паспець, спеваку патрэбна два жыцці: у адным — вучыцца, у другім — спяваць. За дзесяткі гадоў працы на опернай сцэне ў Аркадзя Саўчанкі не было нелюбімых роляў. Усе героі блізкія, дарагія сэрцу артыста. Гэта ж "кавалачак" яго сэрца!

А вось вяршыняй яго творчасці, бадай, можна назваць вобраз Рыгалета ў аднайменнай оперы Д. Вердзі. Невыпадкова гэты спектакль абраў артыст для свайго нядаўняга бенефіса, прысвечанага 60-гадоваму юбілею і 35-годдзю творчай дзейнасці. Дакладнымі вакальнымі і акцёрскімі штрыхамі вымалёўваў ён на працягу некалькіх гадзін трагічны і неадназначны вобраз свайго героя. Яркі палётны голас непаўторнага тэмбру гучаў надзвіва свежа, прыгожа. "Брава!" — віталa публіка. А на сцэне быў змардаваны горам стары, які выпадкова стаў саўдзельнікам згубы сваёй адзінай любай дачкі, — Рыгалета...

Разам з А. Саўчанкам у яго бенефісным спектаклі сапраўдны ансамбль стварылі цудоўныя беларускія артысты, якіх ён выбраў у якасці партнёраў, — Марат Грыгорчык, Наталля Кастэнка, Наталля Руднева, Алег Мельнікаў і іншыя.

— З ім як з партнёрам лёгка спяваць, — гаворыць М. Грыгорчык. — Наогул кожны спектакль з яго удзелам заўсёды праходзіць з поспехам.

— У зале ціша, калі ў другім акце гучыць наш дуэт, а мы нават не дыхаем, спяваем на адным дыханні, — дадае Наталля Кастэнка.

— Ён настолькі прафесійна спявае, што я хацела б пераймаць — як ён лёгка, мякка, свабодна рухаецца па сцэне! Дзякую лёсу за такога партнёра. Навучылася ў яго падачы гуку, дыкцыі, палётнасці гучання, — прызнаецца Наталля Руднева.

У той святочны вечар юбіляр пачуў шмат цёплых слоў. Для яго спявалі, танцавалі. Яго літаральна засыпалі кветкамі. Любяць мінчане свайго куміра.

Можа, у гэтай шчырай народнай любові — адзін з сакрэтаў яго творчай маладосці?

**Вера КРОЗ**



*Мізгір ("Снягурачка").*



*Аманасра ("Аіда").*

Тэатр

# “АРТЫСТАЎ СВАІХ ТРЭБА ЛЮБІЦЬ”



***У школе ён меў двойкі па паводзінах. Настаўніца беларускай мовы казала, што ён пэўна будзе працаваць у цырку, а яна ўжо — выстойваць у чарзе па білеты. Цяпер настаўніца — сярод самых адданых гледачоў тэлевізійнай перадачы “Тэатр у фатэлі”, дзе Сяргей Арланаў працуе як рэжысёр. Часам яе ловяць у эфіры і сябры па валейбольнай зборнай Беларусі.***

***Сам Сяргей з усмешкаю згадвае, як пачынаў сваю артыстычную кар’еру... з дзіцячага садка: апантана чытаў вершы. На ўсіх ранішніках. Вылучаўся добрай памяццю і вучыў іх проста перад выступленнем. Такім чынам мацавалася падстава трапіць у тэатральны клас 136-ай мінскай школы (якраз тады В. Бандарчук гэты клас арганізаваў). Цуд школы быў у тым, што яна працавала...як маленькі тэатральны інстытут. Гэткія інстытуцкія яселькі. Выкладалі і танец, і сцэнічны рух, і пластыку, і гісторыю тэатра... Таму ў Акадэміі мастацтваў малады чалавек меў магчымасць трохі гультайнічаць? Але перш як трапіць “трохі гультайнічаць”, трэба было хораша папрацаваць. Першая сустрэча — з педагогамі Іллёй Курганам і Аляксандрам Бутаковым. Яны праслухалі Сяргея, справядліва наракаючы на ягоную дыкцыю. Параілі каменчыкі ды арэхі для трэніроўкі. І Арланаў... упершыню задумаўся пра рэжысуру. Хоць дыкцыю выпраўляць давялося. Так што ў адной з праграм “Тэатра ў фатэлі” яго ўбачылі ў ролі Калігулы паводле Камю, а на студэнцкай сцэне ён выйшаў у ролі Мальера паводле Булгакава. Працаваў манціроўшчыкам у Купалаўскім тэатры, пасля чаго на пытанне “ці ж падрыхтаваны ты да працы ў тэатры” адказвае проста, маўляў, прыроду акадэмічнага тэатра ў побытавых праявах разгледзеў, асабліва — высілкі й намаганні па ўтрыманні тэатра ў акадэмічным стане.***

**— І што б ты, Сяргей, вылучыў як самую балючую тэатральную праблему?**

— Усе афішы Беларусі падпісаны рэжысёрамі-пастаноўшчыкамі. Мне ж здаецца, што, на самай справе, большыня з іх уяўляе сабой толькі пастаноўшчыкаў. Сярод іх вельмі мала рэжысёраў. Я сцвярджаю гэта, паглядзеўшы спектаклі ў нашых самых-самых — акадэмічных тэатрах, у Купалаўскім, у Рускім. Для мяне рэжысура — гэта перадусім праца з акцёрам. З чалавекам. А ў тэатры зазвычай працуюць... са святлом — яго паболей. З заднікамі — тыя мусяць быць як мага прыгажэй. З мізансцэнамі — каб развесці... І трэба пісаць у афішах — пастаноўшчык. І толькі крышачку, якімсьці бокам — рэжысёр. Жонка мая актрыса. Сам паспеў папрацаваць акцёрам. Высноўваю, на жаль, старое: як рэжысёры не любяць сваіх акцёраў. Або любяць як... функцыю, матэрыял, як колькасць, з чыёй дапамогай пры задніку ды ў належным асвятленні нешта й робіцца... І гледача, здаецца, можна пускаць... Мой педагог Барыс Утораў вучыць таму, што менавіта работа з акцёрам вызначае рэжысуру. Гэта першаступенна. Як узор падобнае работы магу назваць Барыса Эрына, чый юбілей мы нядаўна адзначылі. Мне даспадобы работы Мікалая Пінігіна, — ён любіць сваіх артыстаў. Перафразую з Булгакава і паўтаруся: артыстаў сваіх трэба любіць. Інакш рызыкуем прычакаць страшэнных непрыемнасцяў. Другая наша вялікая праблема — кампрамісы ў мастацтве. Мне шмат кажуць пра тэатральную этыку, пра маю ўласную нявыхаванасць (калі кажу пра работу калегі, што думаю). Але ж прафесія вымагае прынцыповасці. Зрэшты, можна і трэба папракнуць і мяне. Хоць бы за ўсе недасканаласці сцэнічных урыўкаў перадачы “Тэатр у фатэлі”. Праўда, я мушу рыхтаваць іх тры-чатыры дні да эфіру. Як ты любіш казаць — да наўпроставага.

**— Мне, калі вяду перадачу, часам вельмі крыўдна: на пляцоўцы куды цікавей... як у кадры. І я — самы прывілеяваны глядач. З другога боку, як ніхто з аднакурснікаў, ты выпрабаваў сябе ў розных стылях, жанрах, матэрыялах...**

— Калі б яшчэ мае работы заставаліся навучальнымі! У мяне ж — тэлеаўдыторыя, спецыфіка тэлебачання, з якой я яшчэ не надта асвойтаўся... Пазнаёміўся са шмат якімі акцёрамі мінскіх тэатраў. Навучыўся шукаць хутка і вырашаць хутка. Прафесійныя якасці, вядома, гартуюцца, але... каб жа не на вачах ва ўсіх...

**— А якому тэатру аддаеш перавагу?**

— Хваля чарноцця й побыту ўжо адышла. Я — за гранічна эстэтызаваны тэатр. Нават за эстэцкі. За дарагую, выбітную форму, якую хто-хто, а нашы акцёры напоўняць высокай духоўнасцю.

**— Твае рэжысёрскія аўтарытэты?**

— У Беларусі — мае педагогі. Ілля Курган і Барыс Утораў. Напэўна, блага казаць у дваццаць тры гады, што мала людзей, якіх я магу слухаць ды слухацца. Якіх магу любіць. Але... магу. Іх абодвух. З вялікай удзячнасцю згадваю пастаноўкі Барыса Эрына, шкадую, што ён пакінуў Беларусь. У гэтых людзей варта вучыцца і прафесіі, і любові...

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

Музыка

# УСЁ БЫЛО “НЕ ПАВОДЛЕ ПРАВІЛАЎ”...



***Якая прырода прызнання і папулярнасці мастацкай працы? У чым тайна поспеху музычных твораў, чаму лёс многіх з іх недаўгавечны? Спрадвек гэтыя праблемы абмяркоўваліся праз прызму паняццяў “натхненне” і “майстэрства”, у адзінстве якіх бачылася зарука сапраўднага творчага поспеху. Між тым, па-за эстэтычнымі дыскусіямі, як правіла, заставалася такая немалаважная ўмова прызнання музычнага твора шырокай слухацкай аўдыторыяй, як простая, прагматычная сувязь паміж творцам і слухачом — праз выкананне, праз агучванне напісаных нот! А гэта, як паказвае гісторыя і цяперашняя практыка, — справа не простая, і найперш, мабыць, у сэнсе арганізацыйным.***

Сёння кампазітару неабходна прадзюсерская дзейнасць дзеля ўласнай папулярызацыі (калі ён не можа гэтыя функцыі пераадрасаваць камусьці іншаму, але ж гэта, як правіла, занадта накладна). У наш складаны час таленавітыя людзі нярэдка пераадольваюць шматлікія ўсім вядомыя жыццёвыя цяжкасці, і амаль не застаецца часу на “прасоўванне” сваіх твораў у свет, на ўсталяванне “патрэбных” кантактаў, на пошук спонсараў. А яшчэ бывае ў інтэлігентнага творцы “непрабіЎны” характар...

Вось так пачынаю разважаць, калі задумваюся пра лёс Валерыя Іванавіча Карэтнікава, члена Саюза кампазітараў Беларусі. 25 гадоў назад ён закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе Пятра Падкавырава — і пачалося напружанае працоўнае жыццё ў Магілёве, Калінінградзе, Маладзечне, Мінску. Чалавек, які спазнаў кватэрныя праблемы, правінцыйную адарванасць ад вядучых музыканцкіх сіл рэспублікі, матэрыяльныя цяжкасці, Валерый Іванавіч захаваў прафесіяналізм, сур’ёзнае і патрабавальнае стаўленне да кампазітарскай справы, да сябе і да сваёй творчасці.

Апошнім часам музыка Карэтнікава гучыць у канцэртах часцей, яе ахвотна ўключаюць у музычна-педагагічны рэпертуар, у праграмы фестываляў і конкурсаў, яго творы апублікаваны ў нотных зборніках. Аднак гэта толькі невялікая частка, большасць жа твораў кампазітара не вядомая шырокаму слухачу. Я між тым, музыка В. Карэтнікава — гэта самабытная з’ява, вартая папулярызацыі, запісу на радыё і БТ. Сам жа ён, чалавек глыбока прыстойны, удумлівы, дапытлівы ў сваёй справе, — цікавы ўласны творчай пазіцыяй.

Аднойчы ў гутарцы са мной Валерый Іванавіч дасціпна заўважыў: “У маёй творчай біяграфіі ўсё было не паводле правілаў”. Ён меў на ўвазе свой асаблівы і сапраўды цікавы шлях да музыкі.

Таленавітым хлопчыкам яго заўважылі ў мастацкай самадзейнасці: іграў на домры ў народным аркестры Палаца піянераў. Не ведаючы нотнага пісьма, юнаком прыйшоў паспрабаваць шчасця ў музычным вучылішчы, да таго ж у сярэдзіне навучальнага года. Паказаў некалькі просценькіх інструментальных мініяцюр, запісаных нотамі пры дапамозе сяброў. Яўген Глебаў, тады малады педагог, але ўжо вядомы кампазітар, прагледзеўшы гэтыя “опусы”, здолеў угадаць у іх талент. Да ягонай думкі далучыўся і знакаміты наш класік Мікалай Аладаў, слова якога сталася вырашальным для залічэння Карэтнікава ў музычнае вучылішча. І ён стаў студэнтам тэарэтычнага аддзялення, здаўшы за два месяцы праграму музычнай школы па тэорыі музыкі.

Хутка кампазітарскі талент Карэтнікава раскрыўся ў поўную сілу, чаму нямала садзейнічаў яго першы настаўнік Яўген Глебаў, які прыйшоў у прафесійную музыку падобным шляхам, з самадзейнасці, і, магчыма, таму асабліва ашчадна і ўважліва паставіўся да свайго вучня. Са сваімі “прыгодамі” паступаў Валерый Карэтнікаў і ў Беларускую кансерваторыю — пасля трох гадоў службы ў арміі, са спазненнем да пачатку навучальнага года пасля дэмабілізацыі. І зноў “добры геній” — прафесар Уладзімір Алоўнікаў падтрымаў абітурыента, дараваўшы недапрацоўкі ў праграме па фартэпіяна і разгледзеўшы яго творчы талент.

І вось настаў час першых вынікаў. У В. Карэтнікава выявілася прыхільнасць да чыста інструменальных жанраў, дзе ён знайшоў сваю вобразную сферу і вызначыў сваю стылёвую пазіцыю. Яго ўлюбёная галіна — камерна-інструментальная музыка. І першым станоўчым водгукам у друку былі цёплыя словы калег і крытыкаў пра квартэт В. Карэтнікава, выкананы на адным з канцэртаў з’езда кампазітараў 1980 года. Яркая творчая з’ява! Аднак твор дагэтуль не запісаны на радыё і не гучыць...

Асаблівая прыхільнасць кампазітара — жанр трыо. Першае трыо — студэнцкая работа, пазней адрэдагаваная аўтарам, але так і не выкананая. Другое трыо для скрыпкі, віяланчэлі і фартэпіяна — з тых рэдкіх твораў, якія можна пачуць у студэнцкіх канцэртах, у класах камернага ансамбля. Трыо N 3 для нязвыклага складу — скрыпкі, альта і фартэпіяна — створана па просьбе выкладчыка ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі С. Дамарадавай для папаўнення рэпертуару па класе камернага ансамбля. Ды ўрэшце гэты твор, сур’ёзны і глыбокі, аказаўся складаным для навучэнцаў. Затое ён быў з поспехам выкананы масцітымі выканаўцамі І. Алоўнікавым, Л. Гарэлікам і І. Панчанка на фестывалі новай беларускай музыкі ў 1992 годзе. Трыо напісана як варыяцыі на тэмы са знанага “Полацкага сшытка”. Дарэчы, нядаўна кампазітарам створана “Шэсць п’ес з “Полацкага сшытка” для трыо і, зноў жа для трыо, — Варыяцыі на тэмы песні Ю. Семянякі “Явар і каліна”.

Музычны свет усіх трыо Карэтнікава ўвасабляе характэрныя ўласцівасці яго творчай манеры. Сучасны кампазітар, які валодае інтанацыйным слоўнікам XX стагоддзя, ён, аднак, заўсёды заклапочаны выразнасцю мелодыі, яе эмацыянальнай акрэсленасцю. Мабыць, таму ён не схільны да экстраардынарных эксперыментаў і сучасную стылістыку трактуе праз спалучэнне традыцый розных эпох і стыляў. Вядома, у яго ёсць свае схільнасці, сярод якіх на асаблівым месцы — творчасць С. Пракоф’ева.

У самых патаемных глыбінях музыкі В. Карэтнікава чуецца першароднасць беларускай нацыянальнай культуры, асабліва ў лірычных старонках: Легендзе для віяланчэлі з фартэпіяна, у песенных тэмах Трыо N 3, Санаце для скрыпкі з фартэпіяна. А якая шматгранная вобразнасць: то кампазітар гарэзуе (фартэпіянныя п’есы “Маленькі каўбой”, “Вясёлая карусель”), то фантазіруе і марыць (Саната для габоя і фартэпіяна, Саната для віяланчэлі з фартэпіяна, ч. II), то ён засяроджаны і суровы (Трыо N 3, Саната для віяланчэлі, ч. 1). А яго лірычны дар праяўляецца і ў вакальных цыклах: 4 рамансы на вершы П. Броўкі і М. Танка, 3 рамансы на словы Г. Кагановіча.

Ведаю, што чакае свайго выканання Сімфонія В. Карэтнікава, ідзе праца над ужо другім канцэртам...

Аднак Валерый Іванавіч не з тых мастакоў, якія ў творчым самазабыцці гатовы адмовіцца ад штодзённага жыцця. Ён жыве разнастайнымі інтарэсамі. Ён — таленавіты крытык і галоўнае — педагог, які мае свае вынайдзеныя прынцыпы вядзення курса кампазіцыі. Гэты курс ён вядзе пастаянна — спачатку ў Магілёўскім і Маладзечанскім музычных вучылішчах, а апошнія 12 гадоў — у Рэспубліканскім ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі. Карэтнікаў выгадаваў 7 лаўрэатаў рэспубліканскіх конкурсаў, 4 лаўрэатаў міжнародных конкурсаў у галіне кампазіцыі сярод навучэнцаў. Многія з цяперашніх студэнтаў дагэтуль звяртаюцца да Валерыя Іванавіча па кансультацыю.

Курс кампазіцыі — магічны... У класе Карэтнікава цаРуе атмасфера ўзаемнай зацікаўленасці. Вучні займаюцца кампазіцыяй з вялікім задавальненнем, многія мараць зрабіць яе сваёй будучай прафесіяй. А настаўнік атрымлівае ад сувязі з дзецьмі творчыя імпульсы. Многія творы Валерыя Іванавіча (дарэчы, бацькі ды дзеда вялікай сям’і) — для дзяцей і пра дзяцей. Узаемапрыцягненне настаўніка і ягоных гадаванцаў — шчаслівая гармонія, бо Карэтнікаў — цікавая асоба, тонкі і абаяльны чалавек, які ўмее адчуць індывідуальнасць вучня.

Клас Карэтнікава ў ліцэі — незвычайная з’ява. Пераканаў у гэтым канцэрт, дадзены ягонымі вучнямі — лаўрэатамі міжнародных конкурсаў у зале Саюза кампазітараў Беларусі: Т. Багданаў, І. Атрашонак, А. Чубрык, Ц. Шчарбакоў... Навучэнцы ліцэя, яны на працягу некалькіх гадоў заняткаў з Валерыем Іванавічам набылі не толькі навыкі складання музыкі, але і густ да стылёвай палітры, імкненне да свежасці гучання і стараннасць у працы.

Сваю энергію В. Карэтнікаў не траціць, бадай, толькі на адно: на “прабіванне” сваіх твораў у музычны свет. “Ненавязлівасць” кампазітара прывяла да прыкрай сітуацыі: многія ягоныя творы не ведае публіка. Крыўдна, што няма ў сістэме арганізацыі нашай культуры пэўных рычагоў для стымулявання, выканання і папулярызацыі новых твораў, каб не трэба было “прышчэпліваць” людзям творчай працы якасцяў “прабівалы” сваіх опусаў. Хочацца верыць, што калі-небудзь мы будзем мець і нотнае выдавецтва, і сваю фірму гуказапісу, і тады творчасць беларускіх кампазітараў будзе гучаць у поўным аб’ёме. Тады і музыка Валерыя Карэтнікава знойдзе свайго ўдзячнага слухача і прыхільніка.

**Ніна СЦЯПАНСКАЯ,**

**кандыдат мастацтвазнаўства**

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## У КРОПЛЯХ ЧУЙНЫХ НОТ

Ён нарадзіўся ў сям'і пятым. Для маці гэта было вельмі жаданае дзіця. Яна нарадзіла яго па дарозе ў поле. Так з'явіўся на свет Алег Атаманаў — пад адкрытым небам, таму, відаць, і талент яго адкрыты і шматстайны.

Паэт — кампазітар — выканаўца.

На Беларусі шмат талентаў, але талент барда-спевака Алега Атаманава, на мой погляд, унікальны. Ягоны голас то лашчыць, то бянтэжыць, то хвалюе — а бывае і ўсё разам. Слухаеш яго — і хочацца адчуваць, смяяцца і плакаць. Жыць.

Мне даводзілася назіраць, як ён піша вершы. Быццам гуляючы, быццам цешачыся. На працы ва універсітэце, у інтэрнаце, за кавай і без яе. Натхненне прыходзіць да яго паўсюль.

Не толькі тэма кахання хвалюе яго. У яго ёсць добрыя філасофскія і патрыятычныя песні. Ён штораз знаходзіць свежыя словы.

У гэтага чалавека вельмі выразныя вочы, якія сведчаць пра незвычайную глыбіню і чысціню душы. І ўвогуле гэта сапраўдны чалавек, які жыве сярод нас — усміхаецца вельмі прывабнай шчырай усмешкай, сумуе, піша вершы, музыку і спявае...

Алег Атаманаў, безумоўна, адзін з самых цікавых беларускіх бардаў. Яго песні ўваходзяць у нашы сэрцы жаданымі гасцямі. Гэта і ёсць сапраўдны талент.

Тамара ФАМЕНКА

## А ПРАВІНЦЫЯ НЕ СПАЛА...

90 гадоў назад, 13 красавіка 1906 года, у Мінску выйшаў першы нумар грамадска-палітычнай, эканамічнай і літаратурнай газеты "Голос провинции", што выдавалася да 21 красавіка 1907 года. За гэты час было выдадзена 306 нумароў, праўда, 6 з іх так і не прыйшлі да чытача, паколькі былі канфіскаваны. Выходзячы штодзённа, "Голос провинции", наколькі гэта яму ўдавалася, імкнуўся ўсебакова адлюстроўваць тагачаснае жыццё. Шэраг накірункаў выдання не можа не заслугоўваць ухвалы. У прыватнасці, яно адстойвала правa народаў Расіі на культурна-нацыянальнае самавызначэнне, пры гэтым выкрываўся вялікадзяржаўны шавінізм рэакцыйных партый і чарнасоценных выданняў. "Голос провинции" пісаў і пра тое, што беларускі народ мае права на родную мову і літаратуру, вітаў выхад першага нумара газеты "Наша доля" як пачынальніка беларускага нацыянальнага друку. Высока былі ацэнены верш Я. Коласа "Наш родны край", апавяданне Цёткі "Прысяга над крывавымі разорамі". Не прамінуў "Голос провинции" адзначыць і з'яўленне кнігі ў выдавецкай суполцы "Загляне сонца і ў наша аконца".

## АДСТОЙВАЎ БЕЛАРУСКАСЦЬ

Такі ўжо лёс беларусаў: шмат часу праходзіць, не адно дзесяцігоддзе мінаецца, а сказанае калісь нікольki не страчвае сваёй актуальнасці. Як і гэтае меркаванне Я. Журбы, што прагучала ў яго артыкуле "Беларуская нацыянальная хеўра", апублікаваным у газеце "Наша Ніва" (1908, N 7): "Кожны народ розніцца ад другіх сваёю моваю, жыццём, звычаямі і г. д., і ён мае права жыць як асобная нацыя, развіваць сваю мову, сваю літаратуру, мае права пазнаваць навукі ў сваёй роднай мове, развіваць сваю культуру. З гэтага права народ пачынае карыстаць толькі тады, як усе сыны яго добра знаюць, хто яны, да якой нацыі належаць.

Каб нашы беларусы сталі моцнай нацыяй, каб яны здолелі заваяваць сабе агульналюдскія правы, патрэбны два варункі: перш-наперш трэба як найбольш свету даць беларусам, бо цемната — глаўная прычына нашага цяжкага палажэння; а яшчэ — падняць нацыянальную свядомасць беларусаў. Гэта надта вялікая праца: трэба разбудзіць сонныя вумы беларусаў, каб не былі такімі забітымі і загнанымі, як дагэтуль, каб цяжкія, несцярпімыя варункі жыцця нашага змяніліся на лепшыя".

Дзеля гэтай удзячнай задачы і жыў, працаваў Я. Журба, з дня нараджэння якога споўнілася 115 гадоў (памёр у 1964 годзе). Працаваў і як педагог, і як пісьменнік. Настаўнічаў у Чашніцкім раёне, а апошнія гады жыў у вёсцы Слабада пад Полацкам і ў самім Полацку.

Першы верш па-беларуску апублікаваў у 1909 годзе ў газеце "Наша Ніва". Выдаў кнігі "Заранкі" (1924), "Ясныя шляхі" (1959), зборнікі вершаў для дзяцей "Ластаўкі" (1950), "Сонечная раніца" (1955) і іншыя. Найбольш поўна мастакоўская спадчына Я. Журбы прадстаўлена ў аднатомніку "Творы", што выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1993 годзе.

Паэзія

Сяргей ГРАХОЎСКІ



### ПАВОДКА

Вялікая будзе паводка,
Растануць і знікнуць снягі,
Сарвецца прамерзлая лодка,
Разводдзе затопіць стагі.

Венецыяй стане Палессе:
Да ганкаў прыстануць чаўны,
На лямант адклікнецца песня
З далёкай сівой даўніны.

Вада закіпіць, завіруе
І стоптаны зімнік знясе,
Вярбу перакруціць старую
У ранняй апошняй красе.

Спалошча збуцвелае смецце,
На крызе — і пер'е, і кроў,
І коцікі ўспыхнуць на вецці,
Як свечкі, над кручай віроў.

Зламаная ветрам галінка
Ў дзівоснай сваёй пекнаце
Прыб'ецца вадой да суглінка,
Зачэпіцца і расцвіце.

На сілу і веліч паводкі
Гатовы да зорнай начы
З трывогай, як нашыя продкі,
Глядзець з узбярэжжа Пцічы.

*28/III 96*

### МАЯ РУСАЛКА

Ты з далёкай вярнулася казкі,
Дзе ў лілеях русалка пяе,
Вадзянік ад здзіўлення і ласкі
Заглядзеўся у вочы твае.

На світанні у хвалях ружовых
Ты ў цнатлівай красе праплыла
І, як прывід, растала у сховах
Сініх зорак, жывога святла.

Мяне вабіла возера змалку,
Верыў я, што ў ружовай вадзе
Я сваю напаткаю русалку,
І яна за сабой павядзе.

...Праплыла, прамільгнула ў тумане
З таямнічай сваёй варажбой.
Можа, шчасце сустрэну ў падмане
І услед паплыву за табой.

*6/III—96*

### ЖЫВОЕ СЛОВА

Панове беларусафобы,
Як не шчыруе ваша раць,
Вам ісціна не даспадобы,
Што мову нельга адабраць.

Яе душылі, распіналі
Цары, жандары, каралі,
З ёй нашы продкі памiралі,
Каб вольна праўнукі жылі.

За слова гналі ў сутарэнні,
Развейвалі сумленне ўпрах,
Так з пакалення ў пакаленне
Нявечыў і ўладарыў страх.

Чаму сваё не даспадобы
Вам, беларускія сыны?
Няўжо скруцілі вас хваробы —
Служыць і павышаць чыны?

І не даваць нікому спуску,
Як паслухмяным не даюць,
Каб не спяваць па-беларуску,
Хай па-кітайску запяюць.

А мова ў недасяжных спратах,
Як споведзь на святой імшы,
Гучыць у будні і у святы
З глыбіняў чыстае душы.

Яна усіх асноў аснова
Багацця ў яснай галаве.
Нязводная жывая мова
Мяне і вас перажыве.

*22/II—96*

### ІМЯ

Прамільгнулі за векам вякі
У надзеях, у стратах і скрусе.
Век канчаецца.
Хто ж я такі?
Як мне звацца? І як я завуся?

Цяжка ўспомніць усё, што было,
Ператрушчанае напалову.
Дзякуй Богу, што не заняло
Мне амаль паўлегальную мову.

Толькі з гэтым багаццем жывы,
Цешаць толькі далёкія згадкі,
І бяспраўныя нашы правы,
Каб імя не забылі нашчадкі.

*8/III—96*

### ПЯКЕЛЬНЫЯ КРУГІ

*Дыхнула ветрам глыбіня зямная,*
*Пустэльня жальбы ўспыхнула наўкол.*
*ДАНТЭ. "Боская камедыя".*

Агортваюць адчай і жах,
Што столькі ашуканства ў свеце,
Што на чарнобыльскіх крыжах
І пад бамбёжкай гінуць дзеці.

Даўно ў бязладдзі і ў журбе
Сумленне і спакой забылі,
І цяжка дараваць сабе
Сваё маўклівае бяссілле,

Бо не працяў пякучы боль,
Яшчэ не даляцелі міны,
Не стала дамавінай столь,
А людзі ж гінуць штохвіліны,

Дарэмна гіне без віны
Каханы, любы і адзіны...
Заслужыць снайпер ардэны,
Забітыя — не кожны дамавіну.

Усё ідзе наадварот,
І Бог здзіўляецца пахмуры,
Што правіць з'енчаны народ
Заместа хрэсьбінаў хаўтуры.

Замоўклі без'языкія званы
На збітай радыяцыяй званіцы,
Яе здалёк мінаюць каршуны,
Бацян гнязда уласнага баіцца.

Хвіліна за хвілінаю бяжыць,
Бяда, нібы пачварная праказа,
Не дазваляе ні любіць, ні жыць
Сынам Расіі і Каўказа.

Анёлы абгарэлыя брыдуць,
Як прывіды, на ўласныя хаўтуры,
А ім дазволу не дадуць
Начальнікі камендатуры.

Агортвае душу нязводны боль,
Кажан злавесны дзень і ноч лятае...
Я сам сабе на раны сыплю соль
І "Боскую камедыю" чытаю.

*13/II—96*

●

Усё жыццё я верыў абяцанням,
Чакаў, калі нягода праміне,
Але за пакараннем пакаранне
Загнала ў пекла і мяне.

Я прысягаў іконам і партрэтам
І дома, і ў Далёкай старане,
Наіўна верыў недасяжным мэтам
Тых, што ашуквалі мяне.

Здавалася, што дажыву да шчасця
І з радасцю сустрэнуся ў жыцці.
Ну, вось і фініш. Засталося ўпасці,
Бо ўжо далей няма куды ісці.

●

Навошта мне дарэмныя трывогі
Пра нашу і не нашую бяду,
Бо хутка я з памылкамі да Бога
За грэшнікамі сам пайду.

Пакаюся ва ўсім і павінюся
І літасці адзінай папрашу —
Пакінуць назаўсёды ў Беларусі
Маю замардаваную душу.

*4-5/IV—96*

### НЯМА ВІНАВАТЫХ?

За кроў, што ліецца на нашым вяку,
Падзякуем першаму бальшавіку.
Набракла крывёю зямля ад прымусаў,
Ад выбухаў кары, і землятрусаў,
Крывёй набрынялі сцягі і руіны,
Бо льецца і льецца яна штохвіліны.
Загналі худзенькіх падлеткаў у танкі,
А ім яшчэ сняцца дасюль калыханкі.
Чыны, што іх гоняць на смерць і на мукі,
Ніяк не адмыюць сумленне і рукі.
Ім поспехі сняцца ў пуховых пасцелях,
У спецсамалётах і ў лепшых гатэлях.
Клапоцяцца у недасяжным палацы,
Каб толькі не быць генералам без працы.
Крывавая ім неабходна работа,
А значыць, — загіне за ротаю рота,
Вязуць юнакоў на пагібель вагоны,
А ў генералаў цяжэюць пагоны.
Яны — з гартаванай сталёвай пароды,
Якой паслухмяныя служаць народы.
З трыма падбародкамі, ў цесных мундзірах
Жывуць камандзіры пры каманадзірах.
Мы іх абяцанкі і чулі, і чуем:
"З паўгодзіка, можа, яшчэ паваюем".
А колькі за гэтых паўгода загіне?
Хто думае з іх аб удовіным сыне,
Аб тых, што яшчэ не пабачылі шчасця,
Якім давядзецца "без вестак прапасці",
Сканаць у крывёю напоўненых касках
Па незразумелых дасюль абавязках.
Чаму абавязаны іхнія маці
Дзяцей у бяздумных пабоішчах траціць?
Міністр, генерал, іх дарадчык аб страце
Не дбае, хоць мае і сына, і зяця,
Што так паспяхова ваююць даўно
У фірмах, на пляжах і ў казіно.
Таму і спяшаюцца ўсе генералы
Перакаваць на гарматы аралы,
У пекла пагнаць за калонай калоны,
Лічыць адабраныя ў бедных мільёны.
У плямах на іх і лампасы, і боты
Ад невясёлай штодзённай работы —
Дадому вяртаць ў ацынкаваных трунах
Чужых беззваротных, любімых і юных.

Ніхто ж не адказвае, хто вінаваты,
Што гінуць жанкі, аксакалы, салдаты
і... немаўляты.

### ЧАЛАВЕК

Чалавек нараджаецца вольны,
А нявольнікам стане пасля:
Гаспадар дабярэцца няўмольны
І камандаваць будзе здаля.

У чаканні нябеснае манны,
Будзе слухаць яго чалавек,
Палахлівы, нямы, паслухмяны
Сцерпіць ганьбу, няпраўду і здзек.

Чалавек нараджаецца вольны,
А нявольнікам стане пасля.
Беззаконня закон неадольны,
Хоць і стогне, а церпіць зямля.

*26/III—96*

### АДЗІНАЯ ВЕРА

Хто раз схлусіў, не верылі таму,
А потым, каб усё ж душу суцешыць,
Наслухаліся казак, і таму
Стараліся галовы больш не вешаць.

Калі ж з натоўпу выткнуцца яны,
Іх тут жа юды бралі на заметку:
Была віна, ці не было віны,
Высмоктвалі і заганялі ў клетку.

Усіх труціла крыўда і падман,
Смылелі душы і на целе раны.
Жыў ашуканец, як вяльможны пан,
Пакутаваў гарэтнік ашуканы,

Цягаў ён хлусаў на сваім гарбе,
Хоць болей і не верыў у хімеры.
Калі ж паверыць толькі сам сабе, —
Сваёй адзінай непадкупнай веры?

*15/III—96*

### ЗА ПУЦЯВОДНАЮ ЗОРКАЙ

Я ўсё жыццё шукаў свае дарогі,
Кідаўся марна ў розныя бакі,
Чапляўся за каменныя парогі,
Але трапляў заўсёды ў тупікі.

Хоць суцяшалі: "Гэта ўсё часова,
Наперадзе чакае ясны дзень".
А мудрыя пасмейваліся совы:
"Ты акуляры добрыя надзень".

А я блукаў, сябе надзеяй цешыў,
Сланяўся моўчкі ў розныя бакі,
Чапляўся, поўз, а галаву не вешаў,
Але ізноў трапляў у тупікі.

Відаць, вялі павадыры сляпыя,
Што мелі ўсё — чыны, віно і хлеб,
Багатыя на злосць, на дабрату скупыя,
Рабілі ўсё, каб я нямеў і слеп.

Мне стала страшна.
Ледзь расплюшчыў вочы,
Разбуджаны прамудраю савой,
І асмялеў, устаў і сам пакрочыў
За пуцяводнай зоркаю сваёй.

*31/III—96*

### ЗАПАВЕТ

Упоцемку, як свечка, дагару
Па волі і па боскаму загаду,
Як і радзіўся, ў верасні памру,
А можа, на пачатку лістапада.

Хоць задыхаюся ў мурах,
А за нагрузкаю цягну нагрузку,
Калі ж закончыцца мой шлях,
Спакой хачу знайсці у Глуску.

Там дзед і баба, маці, і сястра,
Там прашчуры, і родзічы, і продкі.
У кожнага была свая пара
І шлях ад хаты да кладоў кароткі.

Не баязлівец я, не песіміст,
Хачу вярнуцца ў родную сялібу...
Заходзіць сонца, і пажоўклы ліст
Ляціць, ляціць і стукаецца ў шыбу.

*4/II—96*

## ТАК І НЕ ЗМОГ ВЯРНУЦЦА

**на беларускую зямлю пасля рэпрэсій Сцяпан Ліхадзіеўскі. Яшчэ ў 1933 годзе яго выслалі на 3 гады на поўдзень Казахстана. Праўда, дазволілі настаўнічаць. А дагэтуль ён, ураджэнец вёскі Баславічы (цяпер Барок Слуцкага раёна), скончыў Белпедтэхнікум, вучыўся ва універсітэце, у Беларускім вышэйшым педагагічным інстытуце, уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк", у Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў, працаваў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". Надрукаваўшы ў 1925 годзе ў часопісе "Беларускі піянер" першы верш, паспеў выдаць кнігі паэзіі "Чырванеюць вішні" (1931), "Рокаты дальняй прыстані" (1931), "Крыкавыя знічкі на снезе" (1932), "Мы — маладая гвардыя" (1932).**

**Наступнай жа паэтычнай кнігі (а ёй стаў зборнік выбраных вершаў і перакладаў "Берасцянка жывых трывог") Сцяпану *Іванавічу давялося чакаць да 1962 года.* Пачаў пісаць па-руску, а валодаў узбекскай мовай. Пасля заканчэння аспірантуры ў Ташкенцкім педагагічным інстытуце імя Нізамі працаваў у ім выкладчыкам, быў дэканам факультэта, загадваў ва Узбекістане кафедрай замежнай літаратуры Рэспубліканскага педінстытута рускай мовы і літаратуры. Стаў доктарам філалагічных навук, прафесарам.**

**Вядомы С. Ліхадзіеўскі як аўтар кніг "Анатоль Франс. Краткий очерк творческого пути", "Анатоль Франс. Очерк творчества", што выйшла ў Ташкенце адпаведна ў 1954 і 1962 гадах. Там жа ў 1977 годзе пабачыў свет і яго зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў "Радость встреч", а раней, у 1973 годзе, быў выдадзены зборнік вершаў, перакладаў "Поиски сердолика".**

**У Мінску ў 1981 годзе выйшаў, складзены С. Шушкевічам, — томік выбранага "Вянкі камунарам". Гэта — пасмяротнае выданне С. Ліхадзіеўскага не стала ў 1979 годзе.**

**9 мая яму споўнілася б 85 гадоў.**

## НЕ ДАЖЫЎ ДВА ГАДЫ...

**да свайго 70-годдзя пісьменнік Мікалай Кругавых. Мікалай Пятровіч нарадзіўся ў *сяле Сярэдні Егарлык Цалінскага раёна* Растоўскай вобласці (Расія), але большую частку жыцця звязаў з Беларуссю. На нашу зямлю М. Кругавых прыехаў пасля вайны, калі пасля баёў пачаў служыць у войску на звыштэрміновай службе. Завочна атрымаў сярэднюю адукацыю, вучыўся на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1967 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Быў членам сцэнарнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм", працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў БССР.**

**З першымі творамі М. Кругавых выступіў у 1948 годзе. Выдаў раманы "Честь ярма не приемлет" (1962), "Где не ждут тишины" (1968), "Дорога в мужество" (1971), аповесцяў "Не ради славы" (1964), "Денькина удача" (1978), "Юрка — сын командира" (1979), "Звезды во мгле" (1982) і іншыя творы. Асноўная тэма іх — гераізм народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, мірныя будні абаронцаў Радзімы. Расказваў М. Кругавых і пра тых, хто з маленства ў той ці іншай ступені далучаўся да армейскай службы.**

**Вядомы М. Кругавых як кінадраматург. Разам з Ф. Коневым ён напісаў сцэнарый *мастацкага фільма "Абочина" (пастаўлены* ў 1978 годзе), у сааўтарстве з С. Бадровым — "Юрка — сын камандзіра" (пастаўлены ў 1984-ым).**

## МАСТАК — ЗЕМЛЯКАМ

**У экспазіцыі Капыльскага гісторыка-краязнаўчага музея нядаўна з'явіўся партрэт земляка, слыннага беларускага пісьменніка Я. Скрыгана. Яго падарыў музею мастак У. Пасюкевіч разам з іншымі сваімі работамі.**

**Уладзімір Маркавіч родам з Капыля, сёлета адзначыў сваё 65-годдзе. Ён належыць да пакалення творцаў, якое пачало шлях у мастацтве ў канцы 50-ых — пачатку 60-ых гадоў. З "чырвоным" дыпломам скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, а потым Маскоўскі мастацкі інстытут імя В. Сурыкава. Першыя свае палотны напісаў яшчэ ў пачатку 60-х гадоў. Многія работы прысвяціў родным мясцінам, напісаўшы іх падчас наведвання землякоў. І вось — чарговая сустрэча з капылянамі. Быў Уладзімір Маркавіч і госцем дзіцячай бібліятэкі. І таксама пакінуў падарунак — карціну "Капыльскае возера".**

І ПРАЗ ДОЎГІЯ гады Антонава памяць пранесла воблік бацькі тых дзён. Бацька схуднеў, стаў маўклівы, цёмны з твару — як восеньская ноч.

Быў бацька гаспадар, а стаўся з яго парабак. Пралетар!..

І ўспомніўся Антону верш Янкі Купалы "О, так! Я — пралетар!..", і ён падумаў: дык вось чым падобныя гэтыя два дарагія мне чалавекі — сваім лёсам, тым, што абодва яны нешчаслівыя. Бо што такое пралетар? Чалавек, які нічога не мае, апрача сваіх рук, якія, да таго ж, працуюць на кагосьці іншага. Як сцвярджалі калісьці марксісты, пралетар не мае нават Бацькаўшчыны. Дык дзе ж дзелася Паэтава Бацькаўшчына, на якую ён маліўся, як на абраз, якую будзіў і прасвятляў сваім словам, падымаў з каленяў, прарочыў ёй пасад паміж народамі? Паэтава шчасце было кароткае, як бляск вясновай маланкі ў захмараным небе, — на светавым небасхіле выблiснула БНР і, задушаная ворагамі, упала вобземлю. І паэт бацька, мабыць, не вельмі паверыў яму, бо калі, у сваю чаргу, Антон задаў яму такое ж пытанне: "А як цяпер у калгасе?", бацька адказаў: "Калі няма парадку на зямлі, то нідзе няма дабра — ні ў горадзе, ні ў вёсцы". Антон пачаў гаварыць пра тое, што от была такая разбуральная вайна, столькі трэба было аднаўляць... Бацька, відаць было, слухаў няўважліва, а калі Антон скончыў, ён сказаў: "Звальваць усё на вайну можна, але хіба лепей было да вайны?" Гэта быў год, калі памёр Сталін; у Антона таілася тады надзея на нейкія добрыя змены ў краіне, ён сказаў пра гэта бацьку. Той не спяшаўся з адказам, памаўчаў, узняўшы галаву, а пасля вымавіў з цвёрдасцю ў голасе: "Думаеш, калі Бог дасць мне яшчэ пажыць, дык чагосьці дачакаюся?.." І тут Антону стукнула ў галаву здагадка:гэта ж бацька ўсе доўгія гады — калгасныя і ваенныя — насіў у сабе не толькі шкадаванне па сваім забраным у калгас дабры, а і таіў надзею на такія змены ў жыцці, каб стаўся на інстытуцкую педагагічную адукацыю, уладкавацца бухгалтарам у рэстаране — як найдалей ад усялякіх "ідэалагічных" устаноў. Зрэшты, галоўнае — Хведар уратаваўся ад хапуна, і не так важна, што спрыяла гэтаму; магчыма, што спрыяла і адно, і другое, і трэцяе.

Антон успомніў свой роздум пра шчаслівыя гады ў бацькавым жыцці і падумаў, што ў хвіліны, калі яны, седзячы на цурбане, то размаўлялі, то маўчалі, бацька, мабыць, адчуваў сябе шчаслівым. Бо такія ж страшныя часы мінуліся: і вайна, і хапун. Зрэшты, што такое — шчасце? Што такое — шчаслівы чалавек? Хіба ёсць формула, нейкае азначэнне гэтага?

Тым часам пачалося апошняе развітанне з нябожчыкам. Гучна, захлынаючыся рыданнем, ускрыкнула маці, прыпаўшы да нябожчыка, апусціўшыся на калені. Ад яе ўскрыку жаль праняў Антона, і як ні міргаў ён павекамі, але не стрымаў слёз і ён. Схіленыя матчыны плечы ўздрыгвалі ад слёзных

Аркадзь МАРЦІНОВІЧ

# КРЫК ПАРАНЕНАЙ ПТУШКІ СЯРОД ВОСЕНЬСКАЙ НОЧЫ

АПАВЯДАННЕ

*мог толькі ў сваіх сненнях мілаваць тую* Бацькаўшчыну, аб чым сам прызнаваўся: "Мне сняцца сны аб Беларусі". А тыя яго песні, у якіх ён услых гаварыў пра свае і людскія памкненні, апынуліся за сямю замкамі — у спецсховах. Тады, даўно, калі Антон наважыўся прачытаць Купалавы ўсе творы, ён, па сваёй маладой недасведчанасці, і не чуў такога слова — спецсховы. У Янкі Купалы не было сына, як у Антонавага бацькі, дык яны арыштавалі яго кнігі. Спецсховы — гэта тыя самыя гулагі, толькі для кніг.

Дайшоўшы ў сваім роздуме да гэтага месца, Антон раптам абрывае сябе: а як жа, пасля ўсяго, мог Янка Купала пісаць такое: "Я — калгасніца маладая, жыву весела, ані *дбаю"? Уздыхнуўшы,* Антон адказаў *сабе:* а гэтак жа, як працаваў у калгасе мой бацька, пасля таго, як у яго адабралі нажытак і рухнула яго гаспадарка... Сіла салому ломіць. Гэтую прыказку бацька ведаў, Антон чуў яе з яго вуснаў.

Бацька перажыў вайну жывы-здаровы. Памёр ён праз дванаццаць гадоў пасля смерці Янкі Купалы. Але цяпер, у гэтую восеньскую ноч, калі Антон, ужо сам зусім стары, бяссонна ляжыць са сваімі думкамі ў цёмным пакоі, яму ўспомніліся не тыя дванаццаць гадоў бацькавага жыцця пасля Янкі Купалы, — у яго думках найперш чамусьці паўстае дзень пахавання бацькі, і не ўвесь той жалобны дзень, а толькі горкая часіна апошняга развітання з нябожчыкам ужо на кладах. Так выпала, што бацька памёр восенню, якраз у лістападзе з яго начамі, якім, бывае, няма канца, і кароткімі, найчасцей напагодлівымі днямі. Але ў гэты дзень дождж не ішоў і *холаду вялікага не было. Пра восень нагадвалі* толькі голыя, без лісця, бяроза ды клён, што раслі непадалёку.

Людзей прыйшло на клады нямала. Яны густа абступілі яму і дамавіну з нябожчыкам. Родныя, сваякі, суседзі, калгасны брыгадзір. Яма зеўрала страхатліва, але гэтую страхатлівасць паслаблялі грудкі пяску каля яе, выкапанага з глыбіні, жоўценькага, дробнага, мякенькага, — адразу падумаеш пра гэта, згадаўшы пажаданне нябожчыку — адвечнае, народнае: "Няхай табе будзе пухам родная зямелька". У адзін з грудкоў пяску была роўненька ўваткнута рыдлёўка, яна сваім рабочым выглядам здавалася дысанансам мінорнай урачыстасці гэтай часіны. Антон пазіраў на бацькаў твар з навекі заплюшчанымі вачыма і сціснутымі вуснамі, пазіраў на яго спрацаваныя касцістыя рукі, ужо навекі нерухомыя, і ўспамінаў сваю з ім апошнюю размову ў канцы мінулага лета, калі Антон прыязджаў дадому. Бацька, *як на свой век, выглядаў* няблага, усё рабіў па сваёй гаспадарцы, часам хадзіў яшчэ і на калгасную работу, нішто ў ім не наводзіла на думку, што такі блізкі канец яго жыццёвай дарогі. Яны сядзелі на нейкім тоўстым сукаватым цурбане каля дрывотні; відаць, бацьку ўжо цяжка было распілаваць ды раскалоць на дровы гэткі сукаваты цурбан. Яны размаўлялі пра тое-сёе. Бацька распытваў: "Ну, як там у горадзе?" Антон стараўся адказваць аптымістычна, але зямлі парадак, каб быў на ёй сапраўдны гаспадар. Антон глянуў у той бок сядзібы, дзе раней быў іхні двор; цяпер там поле, і не вайна вінаватая ў гэтым. Вёска знаходзіцца далёка ад вялікіх дарог, і яе мала зачапіла вайна; згарэла толькі некалькі двароў ды школа. Будынкі ж з двара зніклі па іншай прычыне. Гумно праз нейкі год пасля стварэння калгаса разабралі і перавезлі на арцельны двор, зрабілі з яго свіран для збажыны. Антон тады ўжо вучыўся ў сямігодцы ў мястэчку, там і жыў, так што не бачыў увесну прылёту буслоў; яны, мабыць, доўга кружыліся, не згледзеўшы ні буслянкі, ні гумна; напэўна ж, двое іх было — бусел і бусліха; яны ўявіліся Антону разумнымі, як *людзі, і ён падумаў: добра, што яны* не бачылі, як іхняя буслянка, шпурнутая людзьмі з вільчыка, пляснулася вобземлю, нібы нейкае счарнелае непатрэбнае ламачча. Невядома, дзе буслы знайшлі сабе новы прыстанак. Азярод, як выявілася, стаўся непатрэбны калгасу, а былому гаспадару — тым больш. Дык урэшце, ужо ў вайну, пайшоў азярод на дровы. А што датычыць хлява, дык ён калгасніку патрэбны невялікі, не мелася ў яго не коней, ні авечак, толькі карова ды пара падсвінкаў; дык бацька разабраў тыя будыніны і паставіў хлеў на новым месы, за стопкай. Зрэшты, цяпер стала зручней, што хлеў бліжэй да хаты, лягчэй гаспадарам даглядаць карову ды свінчо, ды яшчэ курэй. Бацька сказаў Антону пра гэта так: "Цяпер ужо ў хаце чуваць, як на досвітку певень закукарэкае, так што не заспім..."

Ён скупа ўсміхнуўся ў свае вусы ды бараду, ужо вельмі пасівелыя. Антон адчуў гэтую ўсмешку *і ў голасе, і яму стала добра-добра* на душы, памроілася, што бацьку ў гэтыя хвіліны, мабыць, радасна сядзець з сынам на гэтым сукаватым цурбане і ведаць, што ўсе яго дзеці жывыя-здаровыя. Ну, так, усе чацвёра, у тым ліку і Хведар. Перад вайной яго прывезлі ў Мінск з Нарыльска, з тамашняга лагера, на перагляд справы. Засуджаны на пяць гадоў, ён чатыры з іх адбыў. І увесь час пісаў скаргі, даказваючы, што засудзілі яго беспадстаўна. Тыя "суддзі", хутчэй за ўсё, не апраўдалі б Хведара, а дабавілі б яму яшчэ адзін тэрмін. Але пераглядзець справу не паспелі, грымнула вайна, і "суддзі" тыя разбегліся, мабыць, раней за "арыштантаў". Аднак шанц другі раз трапіць у Гулаг усё ж у Хведара быў: пасля вайны тыя "суддзі" зноў хапалі такіх, як Хведар. Яго ўсё ж абмінуў гэты хапун. Можа, таму, што ў вайну ён быў у партызанах, а пасля, як прагналі немцаў, яго мабілізавалі ў савецкую армію, дзе ён і праслужыў да перамогі. Аднавясковец, дзедзька Вікент, хоць быў намнога маладзейшы за Антонавага бацьку, але таварышаваў з ім. Мабыць, дзядзька Вікент з'яўляўся асведамляльнікам "органаў" і прызнаўся па сакрэту бацьку, што па запатрабаванні тых "органаў" ён напісаў "характарыстыку" аб паводзінах Хведара на акупаванай немцамі тэрыторыі і, як сцвярджаў сам, станоўчую "характарыстыку", таму, маўляў, Хведара не пасадзілі. Але быў яшчэ адзін аргумент на карысць Хведара. Ён, каб зноў не зрабілі з яго "наццэма", вырашыў, нягледзячы на сваю усхліпаў, яе доўга ўпрошвалі, каб яна паднялася, адышла.

І вось ужо века дамавіны назаўсёды схавала ад усіх вачэй бацькаў твар. Рэзка прастукаў малаток па цвіках, прымацоўваючы века дамавіны. Мужчыны, двое з аднаго боку дамавіны і двое з другога, падсунулі вяроўкі пад дамавіну, прыўзнялі яе і асцярожна апусцілі на дно ямы. Глуха шлёпнуліся аб дамавіну камякі зямлі. Антон адвёў позірк ад ямы, было боязна пазіраць, як засыпалі яе зямлёй; уяўлялася, што бацька ў дамавіне адчувае, як зямля падае на яго. Людзі ўжо вальней ціхенька перагаворваліся паміж сабою. І раптам адзін голас выдзеліўся гучней. Антон выразна пачуў: "Тут будзем усе". *Антон міжволі азірнуўся. Гэта сказаў дзядзька* Вікент. "Тут будзем усе". Уявілася Антону, што памруць усе, што цяпер тут, на кладах; памруць усе, што жывуць зараз у вёсцы..., усе, што жывуць у гэты момант у раённым гарадку..., усе, што жывуць цяпер ва ўсёй Беларусі, ва ўсім свеце. Паўстала ва ўяўленні штосьці фантастычнае, жахлівае — і, можа, не як відовішча, а як усведамленне незлічонай колькасці нябожчыкаў і таго, што ўсе людзі смяротныя. Антон сцепануўся, як ад холаду. Бо і сам ён такі самы смяротны. Раптам да яго слыху дайшоў другі голас, жаночы, нібы ў адказ Вікенту, — Антон не пазнаў, хто гэта сказаў: "Цела забірае зямля, а душу — неба". Не адразу, быццам павагаўшыся, ці варта запярэчыць кабеце, сказаў Вікент: "Цела забірае зямля, а душа застаецца з людзьмі". Антона ўразілі гэтыя Вікентавы словы, яны быццам патрабавалі нешта дадумаць, ці разгадаць, ці проста паразважаць над імі. Але тут *якраз* узнялі *крыж,* каб устанавіць яго над магілаю, Антону, разам з іншымі людзьмі, прыйшлося адступіць ад магілы, і гэтая кароткая мітусня перарвала Антонавы думкі. Ён апынуўся блізка каля клёна і бярозы, што раслі амаль побач. Позірк яго слізгануў па бязлістых галінах гэтых даволі высокіх дрэў. Лісце ўжо на доле, вунь яно, рассеянае ветрам, на дарожках паміж магіламі, ужо амаль счарнелае, да вясны ад яго і следу не будзе — згніе. Навошта было гэтае лісце, раз ад яго нічога не застаецца — адзін тлен? Але ж вясной з'явіцца на гэтых самых галінах новае лісце, жывое, цёплае, трапяткое...

Так і людзі, як лісце на дрэвах, — працягваў Антон свой роздум, бяссонна лежачы ў цёмным пакоі, за вакном якога глуха стаяла доўгая восеньская ноч. Ну, так, усе людзі смяротныя, адны паміраюць — другія нараджаюцца. Калі б не так, дык ці быў бы сэнс жыцця, ці варта было б жыць... І тут Антону ўспомніўся адзін даўні знаёмы. Калісьці яны непрацяглы час працавалі ў адным вялікім выдавецтве, але ў розных аддзелах. Потым той перайшоў на работу кудысьці ў іншае месца. Многа гадоў яны не бачыліся і вось выпадкова сустрэліся. Дома, у сям'і, Антон заве сябе здабытчыкам харчу, і цяпер ён ішоў з гаспадарчай торбай у руцэ; час, як кажуць, пераходны да рынку, у магазінах не ўсё ёсць, што трэба, а галоўнае — усё вельмі дарагое, асабліва ў параўнанні з пенсіянерскім заробкам. Даўні таварыш яго таксама быў з гаспадарчай торбай, у

*(Працяг. Пачатак у № 18)*

другой руцэ ён трымаў руку хлопчыка гадоў пяці-шасці. Пагаварылі яны трохі і разышліся. У жыцці так здараецца, што не бачыш чалавека многа гадоў, а пасля раптам сустрэнеш яго і раз, і другі, і трэці. Другі раз гэты таварыш таксама ішоў не адзін, але хлопчык быў не той самы, гэта Антон заўважыў і запытаўся ў яго: “Колькі ж у цябе ўнукаў?” — “Сямёра”, — адказаў той. Антон здзівіўся, пачуўшы, што ў наш час у аднаго дзеда ажно сямёра ўнукаў. “Тры ўнучкі і чацвёра ўнукаў”, — пацвердзіў таварыш, мабыць, прыняўшы Антонава здзіўленне за недавер да яго слоў. “Ну, дык ты самы багаты чалавек”, — сказаў Антон, але хуценька паправіўся, спахапіўшыся, што цяпер, калі бедных вельмі пабольшала, а гадаваць дзяцей стала значна цяжэй, таварыш мог прыняць Антонавы словы “самы багаты” за іронію, а то і за насмешку, і Антон дадаў: “самы шчаслівы чалавек. Не знікне твой род”.

Сказаў тады чалавеку шчыра, што ён самы шчаслівы, а цяпер уявіў яго ў чарзе ў магазіне, з беднай торбай у руцэ, з малым унукам каля сваіх старэчых ног, якім, напэўна, ужо нялёгка стаяць у чарзе. Не бывае ў нас лёгкага жыцця. У крайнім выпадку — пакуль што не было ніколі. Чаму б гэта? “Эх!” — уздыхнуў Антон, устаючы з ложка, каб адкаснуцца ад думак. Пакруціць бы радыёпрыёмнік, знайсці якую музыку, але ж глыбокая ноч, у кватэры ўсе спяць. Антон ступіў да стала, звычна націснуў на кнопку настольнай лямпы. Лагоднае кволае святло заліло стол з тонкім стосам паперы на ім, невялікі радыёпрыёмнік на правым рагу стала, абклееную ўзорыстымі шпалерамі сцяну, да якой прысунуты стол; на сцяне — карцінкі, так Антон называе фотаздымкі і малюнкі ў рамках. Ён сеў за стол, рука сама намацала ручку, што ляжала ўзбоч стосіка паперы. Гэты стосік — пачатае апавяданне. Задума напісаць яго ўзнікла ў Антона тыдні тры таму, а мо і раней. Апавяданне не ішло хутка. Вось захацеў напісаць хоць бы адзін сказ, а ён не даецца. Злосць раптам успыхнула ў ім — ці на сябе, ці на жыццё; яно стала цяжкае, нервовае; людзям нялёгка разабрацца, куды яно ідзе і ці хутка блісне святло ў канцы тунеля, але тыя, ад каго гэта залежыць, па ўсім відаць, слаба варушацца. А тут яшчэ столькі падбрэхічаў навылазіла: адны вінавацяць ва ўсіх бедах суверэнітэт рэспублікі, другія — прыватызацыю, адыход ад прынцыпаў сацыялізму. трэція — амерыканскі імперыялізм... А тым часам беднасць адольвае не толькі пенсіянераў, а і работнікаў. Не да раманаў цяпер людзям. І ніхто не чакае гэтага майго апавядання, кажа сабе Антон. Зойдзеш у кнігарню, найперш у беларускі аддзел, — ляжаць кнігі, а глянеш на іх мізэрныя тыражы, і сум агорне цябе. Калі ж яны нагадуюцца, нашы чытачы? Задае сабе гэтае пытанне Антон і толькі ўздыхае ў адказ, ды мільгаюць думкі пра долю-нядолю нашай мовы, нашай культуры, усяго таго, што аб'ядноўваецца словам беларушчына. І яго ўяўленне малюе нейкую птушку, прыгожую, дзівосную, падобную на галубку, толькі большую, але параненую коршакам ці, можа, арлом; ён кружыць у небе, цікуе, гатовы зноў кінуцца на ахвяру і ўпіцца кіпцюрамі ў яе цела, і дзяўбаць, дзяўбаць... Птушка ўжо крышку акрыяла, і рупіць ёй узляцець, і яна спрабуе зрабіць гэта, але яшчэ не можа і толькі ўскрыквае. Антону нават здалося, што ён пачуў гэты крык, і ён здзівіўся і сам ускрыкнуў ад спалоху. Але мозг яго жыў па сваіх законах, і Антон сказаў сабе: “Дык хіба я не паранены, як тая птушка...” Ён шпурнуў ручку на стол і ўстаў, каб ісці ў пасцель. Позірк яго міжволі зноў слізгануў на карцінках на сцяне і спыніўся на фотаздымку, дзе знятая яго ўнучка. Гэтаму фотаздымку ўжо гадоў пяць. Тады ўнучка была студэнтка-першакурсніца. На здымку яна не адна, а ў гурце такіх жа, як яна, дзяўчат і юнакоў, што сабраліся ў скверы Янкі Купалы на святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі. Пасталі ў цесную шарэнгу на алеі сквера перад помнікам паэту. І заспявалі. Унучка з сяброўкай, таксама тады студэнткай універсітэта, стаяць справа, крайнія ў шарэнзе. Так здарылася, што Антон не быў на той урачыстасці, але ведае, што спявалі яны беларускія песні. А цяпер, гледзячы на гэтую дарагую яму карцінку, Антон падумаў, што, магчыма, у той момант, які схоплены фатографам на гэтым здымку, яны спявалі якраз Купалаву песню: “Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына”. Сквер густа запоўнены людзьмі, над іх галовамі бел-чырвона-белыя сцягі, транспаранты з выявай Пагоні, з лозунгамі “Жыве Беларусь”.

Антон ледзь стрымаўся, каб не ўсклікнуць уголас: “Дык гэта ж усё ўнукі і праўнукі Янкі Купалы”.

Мільгануў у Антонавай памяці і знік даўні таварыш, дзед, у якога сем унукаў. Чаму гэта Антон здзівіўся тады гэтаму? У яго ж бацькі, як ён цяпер падлічыў, было дзевяць унукаў.

Ён зноў глянуў на карцінку. Вунь колькі ўнукаў і праўнукаў у Янкі Купалы. Жыве з імі Купалава душа, Купалава песня.

Дык, можа, і не загіне Беларусь; дык, можа, і жыцьме беларускі род...

Антон апусціўся на крэсла. Яго рука звыкла пацягнулася па ручку.

# КНІГА ГОДА

***У нядаўнім мінулым, у апошнія гады існавання СССР, штотыднёвік “Книжное обозрение” практыкаваў друкаванне спісаў 100 лепшых кніг года. Той, хто цікавіўся імі, памятае, што ў іх некалькі разоў траплялі і навукова-папулярныя выданні выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі. Цяпер гэта не робіцца — такі ўжо час, што сродкі масавай інфармацыі, тэлевізійныя праграмы чамусьці больш ахвотна звяртаюцца да спісаў лепшых фотамадэляў, камерцыйных банкаў і тавараў, забаўляльных праграм, хітоў-парадаў і да т.п. Сумна, але факт — рэйтынг і прыярытэт сапраўдных культурных каштоўнасцяў адсунуты імі з авансцэны ў яе глыбіню.***

Тым больш радасна, што беларускае нацыянальнае кнігавыданне, і ў прыватнасці, дзейнасць выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя” даюць падставы для аптымістычнай ацэнкі перспектыў іх развіцця. У пацвярджэнне гэтай думкі давайце прыгадаем толькі некаторыя з выпушчаных у 1995 годзе згаданым выдавецтвам кніг — “Мысліцелі і асветнікі Беларусі”, 2 том “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”, “Храналогія гісторыі Беларусі”, “Блакітная кніга Беларусі”, энцыклапедыя “Беларуская мова”, яшчэ адзін дадатковы тыраж 3-томнага “Руска-беларускага слоўніка” і іншыя. І ўпэўнены, што калі б сёння друкаваліся спісы лепшых кніг года, то законнае месца ў їм заняло б апошняе выданне БелЭн — аднатомны энцыклапедычны даведнік “Беларусь”. Такога грунтоўнага даведніка аб дзяржаве і яе знакамітых грамадзянах пры асобных яго недахопах рэспубліка яшчэ не мела. Гартаеш яго старонкі і бачыш — якая багатая гісторыя і культура Беларусі, які складаны яе лёс і перспектывы эканамічнага і грамадскага развіцця, як многа зроблена і колькі яшчэ трэба зрабіць, каб узвесці гэты непаўторны край на ўзровень, адпаведны душы і памкненням працавітага і разважлівага люду, што яго насяляе.

Небагаты, але добра праілюстраваны ў даведніку цыкл прыродазнаўчых артыкулаў, выяўляе ўсе асноўныя прыметнасці беларускай прыроды — яе спакой і някідкасць, яе валошкавую азёрную сінявокасць і зеляніну лясоў, дагледжанасць палеткаў і свет жывых істот, багацці нетраў і пераўтваральны ўплыў чалавека на працягу многіх тысячагоддзяў яго існавання тут, практычна ў самым цэнтры Еўропы. Чарнобыльскі пыл і попел унеслі ў агульную карціну свае чорныя фарбы. І ўсё ж людзі і прырода жывуць, хай з болем у душы, але не губляючы аптымістычных спадзяванняў, і надзеі на тое, што гэтая зямля будзе квітнець і радаваць усіх, каго яна корміць, вабіць да сябе.

Высокай інфармацыйнай насычанасцю ў даведніку вылучаюцца артыкулы пра мінулую і сучасную гісторыю Беларусі — іх змешчана ў даведніку больш за тысячу. Не ўсюды ў іх удалося пазбегнуць пэўнай запалітызаванас-ці выкладання другарадных для такога выдання звестак. Але ж можна зразумець і ўкладальнікаў даведніка: любая энцыклапедыя — гэта зрэз поглядаў пэўнай эпохі, пэўнага часу. Ваганні грамадскай думкі, эканамічная і палітычная насычанасць і нестабільнасць жыцця, усплёскі эйфарыі, апатыі і барацьбы за кансалідацыю лепшых памкненняў не маглі не накласці пэўны адбітак і на адбор падзей і фактаў і на іх сэнсавае адлюстраванне. Галоўнае ўсё ж у іншым — канва гістарычнага лёсу і развіцця Беларусі ў даведніку акрэслены з дастатковай глыбінёй; тое, што вядома дакладна, мае ўстойлівае навуковае абгрунтаванне — у ім прысутнічае, тое, што яшчэ не выкрышталізавалася, спрэчнае, падлягае будучаму асэнсаванню, — падаецца сціпла. Цяжка, амаль немагчыма паспець за хуткаплынным часам пераходнага перыяду, калі ці не штодня аб'ядноўваюцца і раз'ядноўваюцца партыі і рухі, прыходзяць і сыходзяць са сцэны іх лідэры, мяняюцца, удакладняюцца ці пераглядаюцца канцэпцыі эканамічнага і палітычнага развіцця. Мо таму больш падрабязна расказана ў даведніку пра падзеі гістарычнага мінулага (перыяды Кіеўскай Русі, Вялікага княства Літоўскага, знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі), і сцісла пра падзеі апошніх дзесяцігоддзяў, савецкага і постсавецкага перыядаў.

Але будзем справядлівымі: той, хто цікавіцца менавіта гэтым адрэзкам часу, знойдзе ў даведніку грунтоўныя і ў многіх момантах раней малавядомыя звесткі і пра звязаныя з ім падзеі — кастрычніцкую рэвалюцыю і першую сусветную і грамадзянскую вайну, пра НЭП, калектывізацыю і індустрыялізацыю, трагічны для беларускага народа перыяд Вялікай Айчыннай вайны і час аднаўлення народнай гаспадаркі, пра складанасці, поспехі і страты ў грамадскім развіцці, барацьбу ідэй і поглядаў, пра ролю Беларусі ў складзе СССР, стасункі з замежжам на міжнароднай арэне.

Можна пагаджацца ці не пагаджацца з выкарыстанай пры гэтым у кнізе канцэпцыяй энцыклапедычнай фіксацыі фактаў, але важней, відаць, тое, што ацэнку іх даведнік нікому не навязвае, пакідаючы кожнаму рабіць уласныя вывады і ацэнкі адпаведна ўласным поглядам і менталітэту. Любы ж замежны даследчык Беларусі, прыхільны ці не прыхільны да яе палітыкі, наўрад ці знойдзе магчымасць на падставе аналізу даведніка папікнуць яго стваральнікаў і дзяржаўныя органы ва ўнутранай альбо вонкавай цэнзуры, матэрыял жа для роздуму знойдзе ў ім багаты. У гэтым сэнсе даведнік па праву можна назваць своеасаблівай візітоўкай рэспублікі, здольнай уносіць у яе імідж за яе межамі станоўчыя рысы.

Добра ўсім вядома і наступнае: гісторыю любой краіны робяць людзі, яны фарміруюць яе культуру, назапашваюць і перадаюць нашчадкам духоўную спадчыну, матэрыяльную аснову і здабыткі іх існавання. Каля 1600 артыкулаў даведніка расказваюць пра вядомых людзей краю. Ёсць сярод іх і асобы, у дзейнасці якіх мелі месца і негатыўныя моманты, але ж абсалютная большасць — гэта тыя, хто сваім жыццём, шчырай у аснове дзейнасцю далучыўся ці далучаецца сёння да лёсу і клопату Бацькаўшчыны, адданы свайму краю і народу. І не прагледжваецца пры гэтым аніякай нацыянальнай пыхі, бо ніколі людзі Беларусі не надавалі значэння нацыянальнай прыналежнасці той ці іншай асобы. Галоўнае — які ўклад яна зрабіла ў скарбонку мацавання яе дзяржаўнасці, развіцця культуры, навукі, эканомікі. Не абышлося тут без страт (вельмі ўжо абмежаваны даведнік аб'ёмам, зроблены аж на краі магчымага — ажно 800 старонак) і без перабольшання (праглядваецца месцамі ўхіл у кола прадстаўнікоў гуманітарнай сферы і частковая “здробленасць” некаторых персаналій). Тым не менш, дзейнасць найбольш выдатных дзеячаў асветніцтва, мастацтва, літаратуры, нацыянальна-вызваленчага руху, сучаснага дзяржаўнага будаўніцтва, навукі ў ім асветлена і надзелена асаблівай увагай.

Зазначым, што ў выданні змешчана 1300 каляровых і чорна-белых ілюстрацый, малюнкаў, даведачных карт і схем. Прывабны выгляд, грунтоўны фармат, цвёрды пераплёт, высакаякасная папера, 800 старонак тэкставай часткі робяць выданне незаменным атрыбутам для прэзентавання айчынным і замежным наведвальнікам, кампаньёнам па бізнесе, проста каштоўным падарункам пры віншаванні з нагоды свята, юбілею, сямейнай урачыстасці і г.д.

Як жа стала магчымым ажыццявіць такое высоказатратнае, складанае і цяжкое як у падрыхтоўцы, так і ў паліграфічным ажыццяўленні выданне? На гэтае пытанне выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара “БелЭн” Яўген Малашэвіч адказаў сцісла: “Толькі і толькі дзякуючы дзяржаўным уладам і Міністэрству культуры і друку. Дзякуй ім за гэта, дзякуй за тое, што, нягледзячы на ўсе эканамічныя і палітычныя складанасці, Рэспубліка Беларусь на постсавецкай прасторы засталася, бадай, адзінай рэспублікай, дзе нацыянальнае навуковае і энцыклапедычнае выданне на працягу ўсіх гадоў знаходзіць разуменне і ўсямерную падтрымку”.

Высока ацэньваючы энцыклапедычны даведнік, разам з тым хацелася б выказаць і некалькі канструктыўных пажаданняў. Апошнія прадыктаваны яшчэ і тым, што даведнік, па ўсім відаць, хутка разыдзецца і патрэбна будзе новае выданне. У аснову падрыхтоўкі даведачнай літаратуры павінен закладвацца праграмна-мэтавы метад і дакладнае арганізацыйна-метадычнае забеспя-чэнне, якое ўключае і фармальныя падыходы, абавязаныя забяспечваць аб'ектыў-насць падачы матэрыялу. У прыватнасці, больш увагі трэба надаць фарміраванню навукова-рэдакцыйнага савета па гэтым выданні. Маюцца на ўвазе яго шматпланавасць, шматфункцыянальнасць, вытворчыя і сацыяльныя аспекты, якія савет закліканы вырашаць, навуковыя праблемы ў дачыненні да артыкулаў гуманітарных, тэхнічных і прыродазнаўчых навук, роля, месца і значэнне канкрэтных дзеячаў па адпаведных перыядах развіцця дзяржавы на аснове аб'ектыўнага навуковага аналізу. Пры гэтым неабходна ўлічваць складанасць нашага часу, калі яшчэ робяцца толькі першыя крокі па шляху ўсебаковага асэнсавання гістарычных падзей па-за межамі і ўнутры нашай дзяржавы. Немагчыма не ўлічваць, што падзел грамадства на “чырвоных” і “белых” меў і мае такія вынікі, пераадоленне якіх — найважнейшая і найскладанейшая задача сучасных і будучых пакаленняў аб'ектыўных і таленавітых даследчыкаў. Трэба дабіцца таго, каб падзеі і людзі, якія адыгрывалі значную ролю ў жыцці дзяржавы, не засталіся па-за ўвагай складальнікаў даведніка.

Ёсць у нас заўвагі і адносна складу рэдакцыйнай калегіі. Шмат пытанняў можна паставіць па бібліяграфіі, транскрыпцыі і этымалогіі, камплектаванні, тэхнічных пытаннях падрыхтоўкі выдання, у тым ліку счыткі і пераносу правак, перадрукоўкі рукапісаў, карэктуры, вытворча-дыспетчарскіх службаў, пры больш дасканалай рабоце якіх многіх дробных недахопаў можна было б пазбегнуць.

Але не гледзячы на пазначаныя недахопы, пэўны шлях пройдзены, пэўныя крокі зроблены, і ў даведніку ўтрымліваецца пэўны матэрыял, які адлюстроўвае падыход рэдакцыі і даведніка да сабранага ў ім матэрыялу і яго падачы чытачу.

Застаецца павіншаваць калектыў выдавецтва з выхадам сапраўды кнігі года — энцыклапедычнага даведніка “Беларусь”.

**В. КАВАЛЕНКА, акадэмік АНБ;**
**А. ПАДЛУЖНЫ, акадэмік АНБ;**
**Л. ГУРСКІ, член-карэспандэнт АНБ;**
**М. МУШЫНСКІ, член-карэспандэнт АНБ.**

Гэта было

***За апошнія дзесяць гадоў мы даведаліся пра вайну больш, чым за папярэднія сорак. Раскрываюцца архівы, зняты забароны на вывучэнне канкрэтных аперацый — напрыклад, катастроф пад Кіевам у 1941-м, пад Харкавам у 1942-м, цяжкіх баёў зімы 1943—1944 гадоў, пра Берлінскую аперацыю 1945-га года. Мы ўжо больш ведаем пра загараджальныя атрады, пра СМЕРШ, пра штрафныя батальёны. Высвятляецца, што публічна няслаўнячы — адзін "нямецкіх разбойнікаў", другі — "крывавжэрных бальшавікоў", Сталін і Гітлер у цесным коле гаварылі адзін пра аднаго досыць паважліва.***

***Але на шляху да праўды аб вайне яшчэ дастаткова перашкод. Шмат нявывучанага, яшчэ больш скажонага. Ёсць людзі, асабіста зацікаўленыя ў тым, каб міфы жылі як мага даўжэй. Іншым проста цяжка расставацца са звыклымі стэрэатыпамі.***

# МЫ ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАЯЛІ

## ПРАЎДА ПРА ШТУРМ БЕРЛІНА

Як вядома, наступленне на Берлін пачалося 16 красавіка 1945 года. За тры дні да гэтага савецкія войскі, якія змагаліся на паўднёвым фланзе фронту і незадоўга перад тым адбілі апошняе нямецкае контрнаступленне ў Венгрыі, уступілі ў Вену. У штурме германскай сталіцы, план якога быў зацверджаны 1 красавіка на вузкай нарадзе ў Сталіна, удзельнічалі арміі трох франтоў: 1-га Беларускага, які пад камандаваннем Г. Жукава займаў цэнтральны ўчастак паласы наступлення; 2-га Беларускага пад камандаваннем К. Ракасоўскага, які наступаў больш на поўнач, і 1-га Украінскага, якім камандаваў І. Конеў. Іх падштурхоўвала неабходнасць спяшацца, каб адным ударам рассекчы вузел апошніх палітычных камбінацый, якія планаваліся немцамі. Наступленне пачалося яшчэ да таго, як арміі Ракасоўскага, якія толькі што закончылі баі ў Памераніі, паспелі зрабіць перагрупоўку і падрыхтавацца да аперацыі. У першы момант Сталін хацеў даверыць задачу ўзяцця Берліна аднаму Жукаву, але некаторыя военачальнікі пярэчылі, і ён пакінуў адкрытай магчымасць таго, што танкавыя арміі Конева пры шчаслівых абставінах таксама павернуць на поўнач для нанясення ўдару па Берліне з паўднёвага і паўднёва-заходняга напрамкаў.

Кіраўніцтва аперацыяй па авалоданні Берлінам уяўляла для Жукава афіцыйнае прызнанне яго першынства сярод савецкіх палкаводцаў. Бітва, аднак, мала чаго дадала да яго ваеннай славы. Гэта была, па яго ўласным прызнанні, "адна з найцяжкіх аперацый другой сусветнай вайны". Пад Берлінам аганізуючая германская армія супраціўлялася з безаглядная упартасцю. З канца студзеня, калі савецкія войскі выйшлі на Одэр, у немцаў быў час умацаваць падступы да горада. Жукаў пачаў штурм глыбокай ноччу, пры святле пражэктараў. Але эфект нечаканасці быў адносны. За Одэрам яго дывізіі сутыкнуліся з магутнымі ўмацаваннямі Зеелаўскіх вышынь, якія прыкрывалі сталіцу; пераадолець гэту перашкоду ім удалося толькі на трэці дзень і цаной велізарных страт.

Кіраўніцтва аперацыяй з боку Жукава пазней стала прадметам суровай крытыкі некаторых праслаўленых генералаў, якія былі тады ў яго ў падначаленні. Верагодна, у імкненні хутчэй дамагчыся перамогі ён сапраўды дапусціў празмернае скучванне танкавых і стралковых дывізій у вузкай паласе наступлення, з-за чаго войскі, перашкаджаючы адно аднаму, рухаліся марудней, чым маглі б. Больш паспяховым было наступленне Конева, якому не трэба было штурмаваць горад улоб. Пераадолеўшы раку Нейсэ, яго фронт здолеў праврваць лінію варожай абароны і ўвесці ў прарыў танкавыя арміі генералаў Рыбалкі і Лелюшэнкі, якія ў сваю чаргу атрымалі загад Сталіна наступаць на Берлін. 20—21 красавіка войскі Конева і Жукава амаль адначасова дасягнулі ўскраін германскай сталіцы.

З аператыўнай зводкі Саўінфармбюро за 30 красавіка 1945 года: "Войскі 1-га Беларускага фронту, працягваючы весці вулічныя баі ў цэнтры Берліна, авалодалі... Войскі 1-га Украінскага фронту працягвалі весці вулічныя баі ў паўднёва-заходняй частцы Берліна і занялі шэраг кварталаў..." Здаецца, усё ў парадку, Берлін узяты ў шчыльнае кальцо, нават у ваенных спецыялістаў, не кажучы ўжо пра цывільных, не выклікала сумнення: усё ідзе па плане.

Між тым, два відныя маршалы наладзілі вар'яцкую гонку за Берлін, імкнучыся абагнаць адзін аднаго.

З пачаткам Берлінскай аперацыі 1-ы Беларускі фронт паімчаў наперад, "апярэджваючы графік". Пры гэтым непазбежна несучы велізарныя страты, асабліва каля Зеелаўскіх вышынь, пакідаючы там горы трупаў.

Не адставаў і 1-ы Украінскі фронт, які ўжо 18 красавіка з ходу фарсіраваў раку Шпрэе. А яшчэ праз дзень, 20 красавіка, маршал Конеў выдае загад камандуючым 3-й і 4-й гвардзейскіх танкавых армій: "Войскі маршала Жукава за 10 км ад усходняй ускраіны Берліна. Загадваю ночу ўварвацца ў Берлін першымі. Выкананне данесці".

У гэты ж дзень, 20 красавіка, маршал Жукаў выдае свой загад — камандуючаму 2-й гвардзейскай танкавай арміі: "Пашліце ад кожнага корпуса па адной лепшай брыгадзе ў Берлін і пастаўце ім задачу: не пазней за 4 гадзіны раніцы 21 красавіка любой цаной прарвацца на ўскраіну Берліна і адразу ж данесці для даклада т. Сталіну і аб'яўлення ў прэсе".

Цану сацыялістычнага спаборніцтва ў мірны час мы ведаем — недакручаныя гайкі і балты. У ваенны час — людскія ахвяры. Масавыя.

У Берліне, каб, відаць, дагадзіць абодвум маршалам, правялі размежаваную лінію паміж войскамі франтоў проста па цэнтры горада: дасюль — наступаць, а далей — не. Але танкісты Конева ўварваліся ў тыл танкістам Жукава. У выніку — сумятня, новыя ахвяры.

Да гонару Конева, ён апамятаўся першым і прапанаваў Жукаву прыняць сумесныя меры. Жукаў замест адказу даў тэлеграму Сталіну: афіцыйна — даклад, па сутнасці — штосьці сярэдняе паміж скаргай і даносам: "Наступленне часцей Конева па тылах 8 гв. А і 1 гв. ТА стварыла блытаніну і перамешванне часцей, што крайне ўскладніла кіраўніцтва боем. Далейшы іх рух у гэтым напрамку можа прывесці да яшчэ большага перамешвання і да ўскладнення ў кіраванні".

Танкісты Рыбалкі вымушаны былі павярнуць ад цэнтра на захад. Цэнтр жа Берліна дастаўся цяпер Жукаву. І галоўнае — рэйхстаг.

Другія маштабы — другія чыны. Бралі Берлін — спаборнічалі камандуючыя арміяй, бралі рэйхстаг спаборнічалі камдывы. З двух бакоў да цэнтра рэйхстага падышлі дзве дывізіі 1-га Беларускага фронту — 150-я стралковая пад камандаваннем генерал-маёра В. Шацілава і 171-я стралковая пад камандаваннем палкоўніка А. Нягоды. У кожнай дывізіі — па сваім Сцягу Перамогі з дзевяці (па колькасці дывізій).

30 красавіка каля трох гадзін дня палкоўнік Зінчанка (з дывізіі Шацілава) паведаміў камбату Неустроеву аб тым, што ёсць сакрэтны загад маршала Жукава, у якім аб'яўляецца падзяка войскам, якія ўзнялі Сцяг Перамогі. Абодва разгубіліся: рэйхстаг не ўзяты, сцяг не ўстаноўлены, а падзяка ўжо аб'яўлена... Каб дасягнуць рэйхстага, трэба было пераадолець Каралеўскую плошчу, пакрытую заваламі, барыкадамі, надаўбнямі. Плошчу перасякаў канал, за якім — траншэі, доты, зеніткі, пастаўленыя на прамую наводку. Пад прыцэлам быў кожны метр плошчы. З замураваных вокнаў самога рэйхстага вытыркаліся кулямётныя ствалы.

Калі з'явіўся загад Жукава, нашы салдаты яшчэ толькі зрабілі першую спробу выбрацца на плошчу і тут жа заляглі, прыціснутыя шквальным агнём. Сама больш уражвала тое, што ў сакрэтным загадзе маршала, акрамя падзякі войскам сваіго фронту, апісваліся і падрабязнасці ўзяцця рэйхстага: "Праціўнік у раёне рэйхстага аказваў жорсткае супраціўленне нашым наступаючым войскам,ператварыўшы кожны будынак, лесвіцу, пакой, сутарэнне ў апорныя пункты і ачагі абароны. Баі ўнутры галоўнага будынка рэйхстага пераходзілі ў неаднаразовыя рукапашныя сутычкі. Войскі 3-й ударнай арміі зламалі супраціўленне ворага, занялі галоўны будынак рэйхстага і сёння, 30.04.45 г., у 14.25 узнялі над ім наш савецкі сцяг".

Саўінфармбюро пайшло яшчэ на большыя "прыпіскі", паведаміўшы 30 красавіка, што "сёння ў чатырнаццаць гадзін савецкія байцы авалодалі будынкам нямецкага рэйхстага і ўстанавілі на ім Сцяг Перамогі".

Прыціснутыя агнём да зямлі, салдаты прадаўжалі ляжаць на плошчы. Камандзір дывізіі патрабаваў ад палкоўніка Зінчанкі: "Калі няма нашых людзей у рэйхстагу і не ўстаноўлены там сцяг, то прыміце ўсе меры любой цаной устанавіць сцяг ці сцяжок хоць бы на калоне парадная пад'езда. Любой цаной!"

Стала ясна: камдыў Шацілаў, баючыся, як бы другі камдыў — Нягода, не далажыў раней за яго аб узяцці рэйхстага, адрапартаваў аб узняцці Сцяга Перамогі над рэйхстагам камандзіру 79-га стралковага корпуса генерал-маёру Перавёрткіну, той — камандуючаму 3-й ударнай арміі генерал-палкоўніку Кузняцову, а той — Жукаву.

Зноў — любой цаной. Ні пра які Сцяг Перамогі гаворкі, вядома, не магло быць. Адзіночкі-добраахвотнікі, самыя адчайныя, разарваўшы нямецкія пухавікі з чырвонай тканіны, кінуліся з гэтымі сцяжкамі да рэйхстага, каб устанавіць іх дзе заўгодна — на калоне, на фасадзе, на вуглу будынка, у вакне. Але рабілася не так, як рабілася ва ўсіх войнах — спачатку авалодалі, потым устанаўлівалі. Тут жа было ўсё наадварот. Адзіночкі-добраахвотнікі загінулі. Усе.

Батальён Неустроева пайшоў на рашучы штурм. Толькі з чацвёртай спробы ўварваліся ў рэйхстаг...

Колькі ж чалавек загінула ў час штурму рэйхстага? Афіцыйнай статыстыкі страт у баях за рэйхстаг няма.

Берлінская аперацыя аказалася адной з самых кровапралітных, ахвярных за ўсю вайну. Агульная колькасць страт: забітых і параненых — 352,475 чалавек. З іх: незваротных страт, г. зн. забітых — 78,291 чалавек; "санітарных страт" — параненых, кантужаных, абпаленых і г. д. — 274,184 чалавекі. Колькі з іх выжыла, колькі памерла або стала інвалідамі — невядома. Да гэтых лічбаў трэба дадаць і страты за Берлін дзвюх польскіх армій: незваротных — 2,825 і "санітарных" — 6,067 чалавек.

Горка і крыўдна. Чатыры гады вайны былі ўжо ззаду, і Берлін быў асуджаны, войскі саюзнікаў не збіраліся яго штурмаваць, ён быў наш — ва ўсіх выпадках.

І яшчэ пра наша цынічнае імкненне акругляць страты. А ва ўсе дзесяцігоддзі мы іх акруглялі да мільёна! Пры Сталіне страты вылічваліся лічбай у 7 мільёнаў загінуўшых, потым — 20 мільёнаў, цяпер — 27 мільёнаў. Апошнюю лічбу назвалі зусім нядаўна. Між тым, калі дакладней, агульныя страты ў вайне складаюць 27.600.000 чалавек. Таксама акруглілі, але ўжо да сотняў тысяч.

Па выніках падлікаў Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расіі за гады Вялікай Айчыннай вайны агульныя незваротныя страты (забіта, прапала без вестак, трапіла ў палон, памерла ад ран, хвароб і ў выніку няшчасных выпадкаў) Савецкіх Узброеных Сіл разам з пагранічнымі і ўнутранымі войскамі склалі 11 млн. 444 тыс. 100 чалавек. Пры гэтым армія і флот страцілі 11 млн. 285 тыс. чалавек, унутраныя войскі — 97 тыс. 70 чалавек, пагранічныя войскі і органы бяспекі — 61 тыс. 400 чалавек.

Астатнія страты — звыш 17 млн. — гэта грамадзянскае насельніцтва акупаваных і прыфрантавых тэрыторый. З іх каля 8 мільёнаў загінула на акупаваных і прыфрантавых тэрыторыях ад голаду, бамбёжак, артабстрэлаў, цяжкіх умоў жыцця, непасільнай працы. Яшчэ больш за 2 млн. загінула на прымусовых работах у Германіі. Колькасць знішчаных у выніку гітлераўскай палітыкі генацыду (расстраляных, загінуўшых у гета, турмах, канцлагерах) склала больш за 7 мільёнаў чалавек. Такім чынам, прамыя і ўскосныя страты насельніцтва СССР у гады Вялікай Айчыннай вайны, зыходзячы з наяўных дадзеных, можна ацаніць у 48—50 мільёнаў чалавек.

Але з усіх шматлікіх разнавіднасцей страт — ваенных і грамадзянскіх, на перадавой, у тыле, у палоне — мы ніколі не даведаемся, магчыма, аб галоўных нашых ахвярах — тых, якіх можна было пазбегнуць. Колькі загінула тых, хто не павінен быў загінуць? Гэтымі падлікамі не займаецца ніхто, і гэтага мы ніколі не даведаемся.

Акрамя звычайнага праліку, абыякавасці або самадурства камандзіраў, былі і чыста савецкія прычыны неапраўданых масавых ахвяр — як жылі, так і ваявалі. Кіеў скажам, вызвалялі да абедзеннага стала: да чарговай гадавіны рэвалюцыі. Так, уклаліся, вызвалілі 6 лістапада 1943 года. Але якой цаной!

... У той страшнай вайне саюзнікі адмовіліся ад думкі штурмаваць сталіцу Германіі: генерал О. Брэдлі падлічыў, што штурм Берліна будзе каштаваць англа-амерыканскім салдатам 100.000 жыццяў. На такія ахвяры яны вырашылі не ісці.

Вядома, адмаўляцца ад камфортных гістарычных штампаў далёка не проста. Занадта шмат замешана асабістых лёсаў, успамінаў, болю страт. На многім ляжыць непазбыўная пячатка сакральнасці: мільёны насмерць сталі за бацькоўскі дом, за родных, за Радзіму; спакутаваная зямля, нябачаныя разбурэнні, амаль 27 мільёнаў загінуўшых... Любыя негатыўныя інтэрпрэтацыі гэтых падзей — нават досыць аргументаваныя — могуць закрануць і закранаюць вельмі асабістае, памяць індывідуальную, памяць гістарычную.

Аднак нават пры ўсім гэтым мы не можам, не павінны і проста не маем права быць незацікаўленымі ў пошуку гістарычнай праўды.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт**


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Кулядоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7332. Нумар падпісаны 8.5.1996 г. Заказ 2233/Г

П 123456789101112
М 123456789101112